чынскімі здаровымі вясковымі сокамі, выглядаў ён малайцавата. Побач Ксю моцна трымала яго за руку, нібы баючыся, што ён уцячэ.

— Я так і ведала, што мы калі-небудзь сустрэнемся. Гэтага не магло не адбыцца, бо мне вельмі хацелася, а калі моцна хочаш — абавязкова спраўдзіцца.

Столік, попелка, пах кавы — і недарэчная музыка, веснавой сонечнай раніцай, калі побач — парк, рака, птушкі... Ксю закурыла.

— Ну, расказвай. Хто ты, дзе ты, кім ты?

— Усё там жа, — неахвотна адказаў ён. — У вёсцы жыву, на станцыі працую.

— Не можа быць! Праўда?!

Ён пасміхнуўся:

— Няма нічога больш пастаяннага за часовае.

Ён пачаў расказваць, што працуе брыгадзірам, прывязаны да хворай маці.

— Дык ты... у вёсцы, — не слухала яна. — У той самай — нашай, далёкай... Як мне сніцца ўсё гэта, як не хапае!..

— Нічога ўжо не засталося ад нашай вёскі, — сказаў ён. — Зарасло, і бэз ніхто не ломіць — акурат як у вас у Мінску.

— Усё роўна хочацца туды, да бяспамяцтва.

— Дык прыедзь. Гэта ж не цяжка. Ці занятая вельмі? Спраў многа?

— Ды не сказаць... Усё ў мяне о’кей. Муж, дзеткі... Большай дзесяць, меншай пяць. Працую псіхолагам. І выкладаю псіхалогію.

— «Лексус», — не без з’едлівасці заўважыў ён.

— І «Лексус».

— Муж таксама псіхолаг?

— Амаль што, — усміхнулася яна. — А колькі тваім дзецям?

— Я не жанаты.... У сэнсе, халасты... Адзін... кажу ж.

На яе твары адначасова з’явіліся недавер, здзіўленне і радасць.

— Ты жартуеш? Ніколі не паверу! Такі мужчына...

Яна задумалася, потым, апусціўшы вочы, ціха спытала:

— Гэта... з-за мяне?

— Ну што ты! Так склалася, так стала пытанне: жонка ці маці. Ды нідзе і не бываю, дзе мог бы пазнаёміцца з жанчынаю, а калі б і бываў, і пазнаёміўся — хто цяпер захоча жыць у глухой вёсцы, з хворым чалавекам?

— А чаму ты мне не пісаў, не адказваў на лісты, не шукаў мяне? — паўшчувала яна мяккім, як колер вачэй, голасам.

— Навінаў не было.

— Хіба ж мне навіны трэба? Мне ты трэба быў. Я шукала цябе па розных сацыяльных сетках... Ці ты не займаешся гэтым?

— Чаму — у мяне ўсё ёсць. Тэлевізар з «талеркаю», камп’ютар, усе навароты... Машына, дарэчы, — пахваліўся ён. — Не «Лексус», канечне, але таксама іншамарка. Маці ў паліклініку звазіць, па прадукты ў горад з’ездзіць...

Ён загаварыў пра адлегласці, якія цяпер не маюць вялікага значэння, пра сацыяльны статус, узрост і месца пражывання — як усё гэта знівеліравана, наколькі ўраўнялася.

— Так што неабавязкова дзікуны жывуць у вёсцы, — сказаў ён. — Зазіраю я і ў камп’ютар, і ў сацсеткі, але не люблю. Агрэсіі многа. Лепш ужо старая добрая кніга, якую ведаеш на памяць...

— Колькі ў цябе часу? — перабіла яна.

— Гадзіны дзве, можа, больш.

— Слухай, тут тлумна, музыка. Хадзем да мяне? Я цябе запрашаю ў госці. Гэта зусім блізка. Кавы пап’ём...

Тыя ж вочы, тыя ж словы, сказаныя адным і тым жа голасам, на міг перанеслі яго на пятнаццаць гадоў назад, у тое самае лета.

— Ксю... Даўно хацеў у цябе спытаць. Запрашэнне «на каву» — я тады быў упэўнены, што яно толькі адно азначае.

— Яно толькі адно і азначала. Малая была, дурная. Рыхтавалася, хацела, каб лепш, прыгажэй, рамантычна... Набівала сабе цану, вылучыцца хоць нечым хацела... А як перажывала потым!

Яна зноў пацягнулася да пачка з цыгарэтамі, але не закурыла.

— Дык паедзем? Дома нікога няма. Пустая кватэра.

— А дзеці?

— Большая ў школе, меншая ў садзе.

— А праца?

— Я пазваню ім зараз.

— А муж?

— Ты што, зноў баішся? Шукаеш прычыны не ехаць? Дзе тут муж? Пакажы мне яго. Людзі існуюць, пакуль яны ў полі нашага зроку. А знік з вачэй — значыць, няма яго ў прыродзе. Ну, а калі з'явіцца — з балкона будзеш скакаць. Жартую, на працы муж. Да таго ж у нас першы паверх.

## X

У салоне «Лексуса» стаяла ватная цішыня. А ў яго «Кіа» хоць зачыняй акно, хоць адчыняй — аднолькава, кожны гук звонку чуваць. Не больш як праз тры хвіліны машына ўкацілася ў зялёны дворык. Многа дрэў, клумбы, кветкі. Вялікая дзіцячая пляцоўка. Трохпавярховы цагляны дом, падобны на катэдж. Каля пад'езда бабуля адной рукой калыхала каляску, другой прыціскала да вуха тэлефон, і чамусьці па-беларуску, манатонна, як аўтаадказчык, паўтарала: «...Паехаў у вёску — прабіў галаву, паехаў у вёску — прабіў галаву, паехаў у вёску — прабіў галаву...» У калясцы сядзеў і хітра пазіраў на Дарафея, відаць, сам герой паездкі ў вёску — малы з забінтаванай галавою, абмазаны зялёнкаю.

— Бесталковы, — сказала Ксю, адчыняючы дзверы. — Не разумею, як гэта — паехаць у вёску і прабіць галаву?

У калідорчыку адразу кінуліся ў вочы чужыя мужчынскія туфлі пад вешаком, а побач — дзіцячыя сандалікі. У ванным пакоі на шнуры, на нікеляванай трубе сохлі шкарпэтачкі, калготкі, трусікі, маечкі — усё яркіх дзявочых колераў, у кветкі, мячыкі, слонікі; і зноў — пад люстрам на палічцы ў празрыстым пластыкавым футарале — дарослы, непрыемны, чужы тут станок для галення.

— У вас адны дзеўкі нараджаюцца, — сказаў Дарафей, выходзячы на кухню з ручніком, выціраючы рукі.

— Добра — вайны не будзе...

Яна ўжо збірала стол, ставіла віны, гарэлкі, закускі. Ён, крыху засаромеўшыся, што ўся гэтая мітусня з-за яго, папрасіў сабе толькі гарбаты, чорнай, моцнай...

— І, калі ласка, лусту белага хлеба з маслам. Больш нічога. Прывык толькі такое.

— Сапраўды. Здаровы мужчына, фізічная праца... А я віна вып'ю. Пад цыгарэту. Мне цыгарэты памагаюць трымаць фігуру, — апраўдваючыся, патлумачыла яна. — Закурыш, дык не так есці хочацца. А памятаеш, як я цябе карміла тады, даўно? Макаронамі з катлетаю?

— Гэта мой самы светлы ўспамін.

— І мой....

Так яны ліслівілі адно аднаму, і яшчэ больш раставала, знікала насцярожанасць паміж імі. Ён падумаў, што павінен пахваліць яе — хоць з ветлівасці госця перад гаспадыняю, ды і чаму толькі з ветлівасці? — ён шчыра зайздросціў ёй, ганарыўся ёю, рад быў за яе.

— Ксю, якая ты малайчына. Такая кватэра, у такім месцы, машына, праца... Выглядаеш свежа, як кветка. І сама ж выйшла ў людзі — без блатаў, без грошай, з такой глушэчы, усяго дабілася розумам, прыгажосцю...

— Ага. Дабілася. Успамінаць не хачу. Эканоміла па капейцы. Кожныя канікулы, яшчэ студэнтамі, на ўсё лета ў Фінляндыю клубніцы збіраць... Света памагла. Усё дзякуючы ёй — і кватэра, і машына. Я да іх часта езджу, у Прагу.

— А як яна сама? — спытаў ён.

— Яна? Цвіце і пахне! Не п'е, не курыць, выглядае маладзей за мяне. Дзіця свайму чэху нарадзіла. Таксама, дарэчы, дзяўчынку. Хочаш у камп'ютары здымкі паглядзець?

— Не, не хачу.

— Разумею... Прабач.

— Я калі-небудзь бачуся з Жэневымі дочкамі, прыязджаюць у вёску, ды і ў іх — таксама дзеўкі. Памятаеш, як твой дзядзька Жэня казаў? Кім ён акружаны?

— Яшчэ як памятаю!

— Ён не са злосці, бяскрыўдны быў.

— Я ведаю. Я табе больш скажу, як псіхолаг: самыя страшныя мае пацыенты не хамы, не п'яніцы, не пахабнікі, не цынікі, а — ханжы. Іх пазнаеш адразу, з першага позірку; на людзях — ліслівыя, ветлівенькія, вочы бегаюць, пальцы не знаходзяць месца, а дома, у сям'і, з жонкай ці з дзецьмі — тыраны, монстры, і гэтае ўвесьчаснае двайное жыццё, ці гульня ў жыццё, хаванне сябе сапраўднага, сваёй сутнасці разрывае іх, як бомба замаруджанага дзеяння. А ў выніку — мне іх слухаць, лячыць... Зрэшты, гэта мой хлеб. Без працы не застануся.

Ён піў, стараючыся не сёрбаць, сваю гарбату, Ксю — сваё віно.

— А раскажы яшчэ пра сябе, — папрасіла яна. — Мне страшэнна цікава ўсё, з табой звязанае. Як, чым ты жывеш?

— Як жыву? Не сказаць, каб о'кей. Як у цябе, напрыклад. У каго ні папытай — цудоўна, шчасліва... Моташна ад гэтага фальшывага аптымізму. Ну які о'кей, калі мы старэем, хварэем і паміраем? Прычым

не ў будучым, а кожную хвіліну, вось, напрыклад, у гэтую самую.

— Цяпер не модная філасофія хваробы і смерці, — гулліва заўважыла яна.

— Калі гадамі жывеш з хворым чалавекам, яшчэ не да такой філасофіі прыйдзеш. Зрэшты, я ні аб чым не шкадую. Стараюся задавальняцца тым, што маю. І веру, што ўсё да лепшага. А смерць, можа быць, самае лепшае.

— О-о! Вось як? Колькі я такога наслухалася! Да таго ж ты сабе супярэчыш. Калі ўсё да лепшага, а смерць — самае лепшае, дык тады ва ўсіх і сапраўды о'кей. Чаму тады аптымізм фальшывы? Ён якраз-такі натуральны паводле тваёй тэорыі.

— Ксю, — пакорліва здаўся ён, — я дылетант. Ты мяне разаб'еш па ўсіх пунктах. Давай без прафесійных тэрмінаў. Я ж пакуль не на прыёме ў цябе.

Яна засмяялася.

— Я, калі казала о'кей, мела на ўвазе цела. Можна быць шчаслівай матэрыяльна, а з душою трэба яшчэ разбірацца.

— На псіхатрэнінгах?

— Хоць бы. Да таго ж я проста павінна быць шчаслівая. Прафесія вымагае. Уяві — прыходзіш ты да псіхолага і бачыш знерваванага, няшчаснага чалавека з абкусанымі пазногцямі і скрушным паглядам. Чым такі паможа?

— Дзякую, — сказаў ён, дапіўшы гарбату і збіраючы крошкі хлеба са стала.

— Не чапай. Хадзем на балкон, я курыць хачу — не магу...

З балкона, коса закратаванага, відаць быў той самы дворык, у які яны ўехалі. Каля дрэў, паміж клумбаў з кветкамі бегалі са смехам дзеці. Ксю, знарок ці выпадкова, стала блізка і так, што Дарафей вымушаны быў глядзець не на дворык, а толькі на яе і ўдыхаць дым яе цыгарэты.

— Дык ты праўда ні аб чым не шкадуеш? І ўсё ў цябе да лепшага? На кожнае «чаму» ёсць гатовае «таму»? Ты шчаслівы?

Ён пацiснуў плячыма.

— Што значыць: шчаслівы — нешчаслівы? Удачлівы — няўдачлівы? Я ведаю толькі, што багаты можа быць добрым, бедны — злым, хворы — шчаслівым, здаровы — няшчасным...

— Яшчэ — не красці, не зайздросціць, даглядаць хворую маці...

— Прыблізна, — кіўнуў ён.

— Не можа быць. Не веру. Няўжо ты ўсім задаволены? І нічога не хацеў бы вярнуць, паправіць?

Усё ж яна заводзіла яго. Яму таксама захацелася пагаварыць сур'ёзна.

— Ведаеш, Ксю, мне кожны год здаецца, што я быў шчаслівы акурат у такі ж час у мінулым годзе. Я калі-нікалі спрабую зафіксаваць гэта, хачу замарозіць адчуванні, спыніць імгненне, ухапіць нюхам, зрокам, рукамі ўсе незлічоныя дэталькі, каб яны не сплывалі так хутка, так непазбежна...

— А казаў, мы кожную хвіліну паміраем.

— ...І пачынаю разумець, што быў шчаслівы менавіта ў тыя моманты, калі здаваўся сабе няшчасным, што кожная сённяшняя нязначная дэталь, маленькая падзея, нават адсутнасць падзеі — гэта цэлае шчасце ў будучым; трэба толькі, каб яно адфільтравалася часам.

— Смешны ты, — прамовіла яна. — Ніяк не змяніўся. Цяжка цяпер такім.

— Наадварот! Калі я думаю пра маладых, пакаленне пятнаццацігадовых — вось каму не пазайздросціш! Як яны разбіраюцца ў гэтай кашы? Колькі ў іх спакусаў, колькі верагоднасцей краху, катастрофы! Увесь час у стане выбару, усюды трэба паспяваць, круціцца, ірваць, хапаць, ні ў чым не сумнявацца, быць упэўненым, «паспяховым», жорсткім. У іх няма нашага вопыту, мы хоць ведалі, што такое добра, што — кепска, яны і

гэтага не ведаюць. Як ім элементарна ацалець, выжыць, не звар'яцець, колькі трэба мець у запасе цынізму і подласці — што, можа, і някепска для выжывання, але дзе іх узяць, гэтыя цынізм і подласць, яны ж таксама талент, не кожнаму дадзены. Не паверыш, я радуюся, што мне пашанцавала, і гэты час заспеў мяне не маладым, а пад сорак. Дай мне цяпер пятнаццацігадовыя мазгі — прападу, звіхнуся. А так — вазьміце мяне цяпер, можна ўмыць рукі і адысці ўбок.

Ён заўважыў, што Ксю хвалюецца. Яна ўжо трэцюю цыгарэту дакурвала.

— У цябе, аказваецца, выдатна адладжаны абарончы механізм. Ты як віеўскім кругам сябе абвёў, і ні пераступіць яго, ні прабіць. Усё ў цябе роўна, гладка, складна, распланавана, разлічана.

— Ну што ты, Ксю, — сумеўся ён. — У мяне акуратткі нічога не атрымалася. Гэта ў цябе ўсё здорава, роўна і гладка, гэта ты ў параўнанні са мной усяго дабілася...

— Спытай, якой цаною. Я прайшла праз усё, што ты зараз казаў. Даводзілася і круціцца, і рваць, і кусацца, і быць цынічнай, і подлай... Так што дарэмна ты мяне хваліш. Ты нічога не страціў, толькі набыў, ты стаў лепшы, а я — горшаю.

## XI

Яны вярнуліся на кухню. Настала няёмкая паўза, якая сведчыла, што трэба мяняць тэму.

— А прызнайся, ты крыўдуеш на мяне, — ціха сказала Ксю. — Я падабалася табе, ты хацеў мяне. Я помню тую ноч, я сядзела ў цябе на каленях... Мы глядзелі на дождж... Памятаеш тыя залатыя часы?

Яна, не міргаючы, глядзела на яго. Чырвань на шчоках, паўраскрытыя вусны. Складзенымі накрыж рукамі яна абдымала сябе за плечы, нібы ёй холадна было. Тут, на кухні, пры такім асвятленні і ў такім ракурсе Дарафей упершыню ўбачыў, што яна змянілася; гэта ўжо не дзяўчынка, не яго Ксю, што і праўда яна, відаць,

прайшла праз многае, перш чым стаць такой. Раптам яму страшнавата зрабілася ад немігаючага позірку гэтых вачэй. Нешта гіпнатычнае, вядзьмарскае, містычнае з'явілася ў ёй (а можа, і заўсёды было). Нічога дзіўнага, што яе кліенты ніякавеюць перад ёю, яна не хваліцца, а так і ёсць, — і пачынаюць распранаць перад ёю душы. Яшчэ яму прыйшло ў галаву, што сярэднявечную інквізіцыю можна ў некаторых рэчах калі не апраўдаць, дык зразумець.

Яна адвяла вочы.

— Аляксей, у нас мала часу. Я хачу сказаць... Ты можаш святкаваць перамогу, — сказала з разгубленай, бездапаможнай усмешкай. — Ты выйграў. Божа, якая я дурная была! Якая вінаватая! Усе гады адчуванне, што зрабіла балюча чалавеку, які адзін па-сапраўднаму кахаў мяне... Я ведаю — гэта з-за мяне ты не ажаніўся. Аляксей, пакуль у нас ёсць час... Мы адныя. Трэба карыстацца момантам. Дай мне шанц выправіць віну. Цяпер ужо я ў цябе прашу. Пайшлі? Вунь пакой, там ложак.

— Ксю...

Ён пацягнуў яе да сябе, пасадзіў на калені і абняў. Яна аддана, гатоўна, з удзячнасцю прыціснулася да яго. Горача зашаптала:

— Дарагі мой, дзякую... Як я чакала гэтага дня, гэтага моманту! Ты ўявіць не можаш, як дзяўчыне, жанчыне жыць з гэтым, насіць у сабе! І чым хутчэй бяжыць час, а ён бяжыць, тым цяжэйшы робіцца камень на шыі... Псіхолагі, маючы справу з не нормаю, самі набіраюцца негатыву. У мяне нейкая псіхалагічная траўма. Аляксей, мне вельмі цяжка, я хачу ў нашу вёску, у наша лета, у свае сямнаццаць! У мяне не жыццё, а існаванне, мне так адзінока, у мяне бяссонніца, я не ведаю, дзеля чаго жыву... Хочаш праўду? Я па-ранейшаму кахаю толькі цябе... я нават у ложку з мужам цябе ўяўляю на яго месцы!

Яна паднялася і ўзяла яго за руку, прапануючы ісці за ёю. Ён застаўся сядзець.

— Ксю... Мы ж сябры... Ты мне сястра...

Яна ўсё яшчэ не разумела, што адбываецца.

— Аляксей, у нас мала часу! Пятнаццаць год назад не была сястрою, калі тыціскаў мяне ў сябе на каленях.

— Малады быў, п'яны... Кроў гарачая, дурная...

Яна выпусціла яго руку.

— Вось як? І... толькі?!

Нарэшце да яе пачало даходзіць, што ролі памяняліся: цяпер ужо яна ініцыятарка, а ён як бы зусім не свеціцца ад шчасця. Відаць, яна нават думкі не дапускала, што ён можа не кахаць, не хацець яе. Яна выглядала няшчаснай, мілай, разгубленай і бездапаможнай.

— Але... ты не можаш адмовіцца. Жанчыны так могуць рабіць, але не мужчыны! Ты... зусім не хочаш мяне? Табе дарагая лыжка толькі ў абед? Гэта помста мне? Ты, як дзіця, адчуваеш нейкую насалоду ад таго, што цябе пакрыўдзілі, «не далі» табе? Не разумею! Забі — не разумею, як здаровы нармальны мужчына можа не скарыстацца такім шанцам!

Ён слухаў, глядзеў ёй у вішнёвыя вочы і маўчаў, бачачы, ведаючы, што не зможа ёй нічога растлумачыць. Усё, што магло паміж імі адбыцца, ужо адбылося, і не трэба спрабаваць перайначваць жыццё — можна толькі змірыцца і прызнаць, што яго Ксю, яго дзяўчынка з белымі трусікамі засталася там, у далёкім леце; што гэтыя бясконца доўгія гады, ды яшчэ памножаныя на адзіноту, зрабілі сваю справу — зрабілі тое, што яго нерэальная, выдуманая Ксю на самай справе стала для яго нечым большым нават за сяброўку, бліжэйшай, чым родная сястра. А жанчына, якая цяпер стаіць перад ім, дарослая, самастойная, са сваім «Лексусам», псіхалогіяй, мужам, дзецьмі, кватэраю, — чужая яму. І гэтую двухсэнсоўнасць, гэтае раздваенне, нават растраенне: у адным целе каханая дзяўчынка, любімая сястра і чужая жанчына — ён ні за што не зможа прымірыць, спалучыць, зліць у адно — хоць на сцяну залезь, хоць лоб разбі.

— А хочаш, я скажу, што з табой адбываецца? Як псіхолаг?

Нечакана халодныя, насмешлівыя, жорсткія ноткі з'явіліся ў яе голасе. Усю прыкрасць, самалюбства пакрыўджанай, адрынутай жанчыны яна ўкладвала ў іх.

— Ты жывеш сваімі ўспамінамі, песціш іх, калоцішся над імі, яны табе даражэйшыя за жывое, яны памагаюць табе паважаць самога сябе. Адбяры іх у цябе — ты загінеш! А тут я — замахваюся на святое! Прапаноўваю ўласнымі рукамі задушыць, знішчыць тое, што адно памагае жыць, з чым так прыемна насіцца! Так?

Ён маўчаў.

— Добра... Што гэта я на самай справе. Як насланнё нейкае, — яна правяла па вачах рукою, нібы стараючыся скінуць нябачныя павуцінкі гэтага наслання. — Калі так табе лягчэй...

Пазбягаючы глядзець на яе, ён узяў свой пакет са стартарам, патаптаўся, што азначала: ісці трэба... электрычка хутка.

— Ідзі, — сказала яна. — Не, пачакай, — пакорпалася ў сумачцы. — На, вось візітоўка. На ўсялякі выпадак. Пішы, звані. Мала што. Можа, яшчэ сустрэнемся...

— Кавы пап'ём? — пажартаваў ён.

І хоць выйшла недарэчна, яна ўсміхнулася, праўда, не зусім весела, хутчэй неяк безнадзейна. Праз дзесяць хвілін зялёны аўтобус-«сотка» вёз Аляксея Дарафея па шырокім праспекце, абсаджаным з двух бакоў каштанамі, з прыгожымі будынкамі справа і злева. І чым бліжэй да вакзала, тым больш, здавалася, шырэў праспект; вышэйшымі станавіліся каштаны, прыгажэйшымі — будынкі, святлейшымі — думкі. Усмешка блукала на яго вуснах. Ён зусім не думаў, што едзе ў глушэчу, да хворага чалавека, да мазутных шпалаў, да звыклай ужо адзіноты. Ён думаў, што хутка лета — усяго праз пяць дзён, і вось ён едзе, спяшаецца да яго, такога жаданага, таго самага, у якім засталася здаровая маці, ранішняя дарога, сонца, раса, Рэвут, жывы Жэня, прызба, ганак,

выпіўка з «прысмакамі», цёплы пясок з курамі і з дзяўчынкамі, добрая і загадкавая Света, бесклапотны хлопец з дзяўчынкай — сваёй малодшай сястрой, сваёй пяшчотнай сяброўкай, якая цёплымі вечарамі ціснецца да яго, захапляецца ім, яго розумам, яго незвычайнай будучыняй... Дзяўчынка з кароткімі, цёмнымі, у карэ падстрыжанымі валасамі, з вачыма, што мякка свецяцца, нібы гладзяць, да якой так пасуе яе кароткае, як летняя ноч, імя — Ксю.

*2014*

## *СУЗІРАЛЬНІК*

### I

На тратуары цені ад дамоў, таму ідзеш, як па веліканскай шахматнай дошцы, з цёмнага квадрата ў светлы, ды яшчэ стараешся не наступіць на хвост голубу, які ўпарта бяжыць паперадзе, абмінаючы расчаўленыя ржава-аранжавыя рабінавыя ягады. Самі дрэўцы, некалі падрэзаныя і цяпер карлікавыя, з куксамі замест вершалін, растуць на газоне за метр ад праездждай часткі, і пад імі то нагінаецца ракам, то прысядае ў траве на кукішкі мужчына з цэлафанавым пакетам і засяроджана чыркае нешта сцізорыкам. Чародка школьнікаў перабегла вуліцу; у аднаго загіпсаваная па самыя пальцы правая рука — вісіць, падвязаная да шыі (як ён будзе пісаць? а мо ляўша?). Тарахцяць па тратуары газонакасілкі, штук шэсць цугам; у прычэпах флегматычныя касцы ў салатавых зелянбудаўскіх камізэльках, і малы гадоў чатырох застыў і не зводзіць з працэсіі круглых ад захаплення вачэй. «Мама, што гэта?!» — «Драндулеткі, — адказвае маці: — Хадзем», — але сын не можа адарвацца ад машынак і па складах паўтарае, укладваючы ў новае слова іншы, чым маці, сэнс: «Дран-ду-лет-кі», — у яго гучыць рамантычна, амаль як музыка. На рагу вуліцы, пад ліпамі, каля безыменнай крамкі чакаюць паратунку — васьмі раніцы — гаротнікі (не ўсе, значыць, паселі ў машыны і паехалі ў офісы), рыхтык як чакалі яго 10, 20, 30 і больш гадоў назад, хіба што тыя, даўнія, былі весялейшыя, расказвалі анекдоты, штораз прыкурвалі, бо танныя цыгарэты тухлі ледзь не пасля

кожнай зацяжкі, і абавязкова знаходзіўся жартаўнік, які жаласліва канькаў, шморгаючы ручку дзвярэй: «Адчыні-і-це вароты ў царства-а нябеснае!» — а гэтыя, цяперашнія — маўклівыя, заклапочаныя, топчуцца ці сядзяць на нізкай агароджы кожны сам па сабе, унурыўшыся ў тэлефоны.

Даходжу да метро, дзе Pizzafoot, пах кавы і гарачых бліноў, музыка, сонца, столікі з попелкамі... Адсюль, з высокага месца, добра бачныя шкляныя дахі кунцаўскіх парнікоў. Неба адбіваецца ў іх, робячы сінімі, і аддалёк гэта так падобна на кавалачак мора! — поўная ілюзія якогась курорта, тым больш на мне шорты, майка, лёгкі абутак, ды і людзі вакол адзетыя па-летняму; адчуванне, нібы ідзеш паўднёвай раніцай на пляж, а мора павольна падымаецца табе насустрач, менавіта падымаецца — ад жоўтага берага да гарызонту.

Праз вуліцу на базарчыку гандлююць сырой і варанай кукурузай, апенькамі, грушамі, яблыкамі, памідорамі, вінаградам, персікамі, дынямі... Каля жоўтай бочкі з надпісам «Квас» два маладыя хлопцы ў шортах, з татуіроўкамі на загарэлых нагах і руках, прадаюць: адзін — грэцкія арэхі, другі — слівы-венгеркі. «А вось яшчэ анекдот: дактары ўскрылі параненага Матаролу, а там усярэдзіне...» — далей не чую, спыняюся закурыць перад невялікай круглай клумбай. На ёй сярод хрызантэмак, настурцый, чарнабрыўцаў — усюдыісныя садовыя рамонкі (сімвал вясковай, ды і гарадской, беларускай восені), інакш — касмеі, белыя, ружовыя, пурпурныя, цёмна-чырвоныя, з касматымі, дробненькімі, як кроп, лісткамі. Над кветкамі завіслі дзве капусніцы і, трапечучы крыльцамі, сінхронна перамяшчаюцца ўверх-уніз і ўправа-ўлева.

Назад іду другім бокам вуліцы, каб захапіць кавалак лесапарку і поля.

Зварочваю на выкладзеную каляровымі пліткамі дарожку. Абапал абляпіхавыя дрэўцы ў суседстве з падстрыжанымі кустамі дэкаратыўнай шыпшыны.

Дарожка вядзе паўз дзіцячы сад. У двары шчабятанне, гоман гномаў, два хлопчыкі, адзін з аўтаматам, другі з пісталетам, прыліплі да драцяной сеткі плоціка і пазіраюць на вуліцу. Святое маленства! Што ў гэтых мілых галоўках? Пра што яны могуць думаць, аб чым гаварыць? «НАТО ласшылаецца на васток...» — чую, праходзячы побач.

Дарожка ўпадае ў ціхую, зялёную, амаль мястэчковую вуліцу. Наперадзе маладая мама з каляскай-двойкай заняла ледзь не ўсю шырыню тратуара, а на яе з-пад вінаграднага куста ўважліва пазірае рабая кошка — важная, гордая ад таго, што вось і яна вывела дзяцей на людзі. Кацяняты — чатыры пярэстыя пухнатыя камячкі, ап'янелыя ад цяпла і свабоды, дурэюць, хаваюцца ад маткі і адно ад аднаго пад шырокімі, з белымі плямамі птушынага памёту вінаграднымі лістамі, спрабуюць караскацца па тонкай лазе, якая дасягае трэцяга паверха, захінаючы ценем ніжнія вокны і балконы.

Пры ўваходзе ў лесапарк, на сцежцы, выстраіліся ў шарэнгу, як вучні на ўроку фізкультуры, чалавек восем аматараў, дакладней — аматарак скандынаўскай хадзьбы: рознага ўзросту, старыя і маладыя жанчыны са сваімі палкамі і заплечнікамі; нізка кланяюцца на ўсход, хорам цягнуць: «Здравствуй, солнышко! Здравствуй, день красный!» — а непадалёку на лаўцы ў халадку сядзіць худзенькая дзяўчына ў светлай сукеначцы, рукі на каленях, у пальцах павадок-рулетка, глядзіць перад сабой не міргаючы, па шчоках цякуць слёзы, яна не выцірае іх, і каля ног скотч-тэр'ер з бародкаю і кручком хваста, не ведаючы, чым гаспадыні памагчы, ліжа ёй красоўкі.

Справа зялёнай сцяной лес. Злева да самай кальцавой — поле са скошанай і адрослай па другім, трэцім разе травой. Тут асабліва заўважаецца, што пачатак верасня падобны на пачатак лета. Якое разнаквецце!

які жоўта-бела-сіне-чырвона-ружовы ўзор на зялёным дыване!

Жоўтыя гузічкі-гронкі дзікай арабіны — піжмы, такога ж колеру дзікі гарошак, і святаяннік, і жаўтазель, і чыстацел; белы дзятлаўнік з трайчастымі ліосткамі; буйныя ружова-ліловыя (ці, як у Ластоўскага, лільёвыя, што і праўда падкрэслівае выцвіласць, паліняласць) кветкі канюшыны; дзядоўнік-татарын (Хаджы-Мурат) — тоўсценькі ствол, пурпурныя кветкі-хохлікі на канцы калючых шарыкаў; лапушысты, падобны на конскае шчаўе хрэн; дробныя брудна-белыя суквецці серпарэзніку, цвіценне якога дакладна супадае з жнівом (колькі разоў ён спыняў мне, пакалечанаму, кроў!); нарэшце, бярозка з кветкамі-званочкамі — павітуха, што любіць расці на чыгуначным палатне, сярод камення на адхонах, асабліва на запасных пуцях, дзе пішчом лезе з-пад сатлелых у зямлі шпалаў і спавівае паржавелыя рэйкі...

І па простай асацыяцыі з рэйкамі і шпаламі так захочацца раптам апынуцца ў цягніку, каб ехаць, ехаць — няважна куды: абы перастук колаў, тамбур з пахам цыгарэтнага дыму, вугальнага гару і прыбіральні, начныя агні за акном, станцыі з пустымі перонамі, з цёмнымі абрысамі пірамідальных таполяў; і галоўнае — абсалютнае веданне, што неўзабаве так яно і будзе, хаця б таму, што жыву ж я, а пакуль чалавек жыве, з ім можа здарыцца ўсё, у тым ліку і добрае.

* * *

«...О-ой, дзе тая смерць, чаго яна не йдзе, — пазяхнуўшы, кажа Тацяна, мая стрыечная сястра. Яна сядзіць у двары на нізкай лавачцы, выцягнуўшы ногі ў хатніх тапцях, склаўшы на грудзях худыя рукі, я стаю побач, абапёршыся на штыкетнік, трымаю ў пальцах непрыкураную цыгарэту. — Каб вось так лёг ды памéр...»

Сястра на дзесяць гадоў за мяне старэйшая, ёй шэсцьдзясят, але гэта яшчэ жвавая бабуля з постаццю дзяўчынкі-падлетка. У светла-ружовай майцы з кароткімі рукавамі, у зялёных з белымі лампасамі спартыўных штанах, на галаве сіняя хустачка. Твар — з маршчынамі пад носам, вузкі і выцягнуты, як ва ўсёй нашай пароды, шчокі ўпалыя, нібы зусім іх няма, паляшуцкія скулкі, наадварот, выпнутыя.

«...А падумаеш, дык добра цяпер жыць! І камп'ютары, і машыны, і грошы — раней ніколі так добра не было...»

Я слухаю яе і не слухаю. Вакол такі мілы стомлены вечар; сонца мяккае, зусім не зыркае, да таго ж яно ўжо напалавіну села на захадзе за лес, туды, дзе чыгуначная станцыя, а трохі далей — мяжа з Украінай. І вось жа верасень — дзіўны месяц: нічога, акрамя бадылля, не расце ў Тацяніным агародзе, ветрыку няма, ціха, а так моцна, густа пахне гуркамі, кропам, яблыкамі-антонамі і сама вострa — упрэлай зямлёй, свежай грыбніцай, — зрэшты, такой парою грыбны пах і ў Мінску, асабліва раніцай, калі расчыніш акно на кухні, высунешся з кубкам кавы, локці на падаконнік, і яшчэ не паспееў прыкурыць першую цыгарэту. Мне верыцца і не верыцца, што сёння раніцай я без клопату шпацыраваў сабе ў шортах па сваім раёне, гуляў каля метро, у лесапарку, раптам ні з таго ні з сяго схапіў тэлефон, набраў нумар Тацяны — адзінага блізкага чалавека з усёй нашай некалі вялікай радні... Пасля таго, як не стала маці, я да яе калі-нікалі езджу ў вёску ў адведкі. Нашы хаты побач. Яна жыве адна. Сыны, унукі, тым больш нявесткі вёскі не любяць, хоць і блізка ім з горада, наведваюцца рэдка, таму яна так рада маім прыездам, можа хоць нагаварыцца ўволю. Пяць гадзін на маршрутцы — і вось я тут, вельмі цёплым, амаль душным вераснёвым надвячоркам, стаю ў Тацяніным двары — за амаль 400 км ад Мінска і за сто метраў ад роднай хаты. Вунь яна, схаваная за

елкаю, мая хата — руку працягні. Толькі ўжо даўно там гаспадарамі чужыя людзі. Купілі хату разам з зямлёй пад дачу. Першае, што зрабілі, — павыносілі і павыкідалі на сметнік ложкі, маю любімую канапу-«бегемота», мэблю... Потым прывезлі з горада сем катоў і выкапалі сажалку на ўвесь агарод. Зрэшты, яны папярэджвалі, што ім трэба толькі ўчастак, адна зямля, таму неўзабаве збіраюцца зносіць халупу — зруйнаваць, каб і следу не засталося, а на тым месцы пабудаваць катэдж.

Я адварочваюся, аглядаю Тацянін двор, яе хату — таксама ўжо ўсохлую, маленькую, асабліва ў параўнанні з елкай у канцы двара (той самай, што закрывае маю хату) — гэтая высокая, густалапая, вымахала — на рэдкасць для Палесся, і ўсё яе гоніць у рост далей; памятаю, яна была ростам з мяне, а цяпер высокая жэрдка з круглай антэнай дастае ёй толькі да ніжніх галін. Дворык, калісь знарок абрэзаны — з эканоміі, каб больш зямлі перапала агароду, таксама з кожным маім прыездам робіцца ўсё меншы. А ад вялікага агарода, як па нейкай іроніі, больш ніякага толку: здзірванеў, зарос бур'янам, палыном, ніхто яго нават не косіць. Тацяна запусціла яго адразу, як пайшла на пенсію. Абсалютна ніякай гаспадаркі яна не вядзе, няма нават курэй; зімы праседжвае ў горадзе ў каторага з двух сыноў, цёплай парой ходзіць па грыбы, сядзіць у двары ці гуляе па вуліцы, глядзіць тэлевізар (дарэчы, мне заўсёды падабалася яе святое гультайства, ёсць у гэтым нейкая роднасць душ, блізкасць натуры — свой, творчы чалавек).

«...Ты глядзіш, што здзічэла ўсё? Раней рваліся, а цяпер чорт бы іх сеяў, гэтыя гароды, засыпся цяпер гэтай зямлёй... хай ён праваліцца... Кажуць, не будзеш засейваць — прыйдзем і абрэжам, я кажу — прыходзьце і абразайце, — роўна цячэ Тацянін голас. Прывыклая жыць адна, яна і цяпер нібы гаворыць сама з сабою. — У мяне ўсё ёсць, я не дбаю. Хіба што ўвесну пару гра-

дачак пад акном, трохі цыбулі, ды часнаку, ды радзіскі, а больш нічога — усё цяпер у дачнікаў можна купіць... І сала, і яйкі, і бульбу, і малако, і гуркі з памідорамі... А хлеб сыны з горада прывозяць, і каўбасу, і вінаград, і фарш на катлеты...»

Каля шула паміж дошак штыкетніка, перад маім носам, тырчыць вышынёй у чалавечы рост куст бараболі-самасейкі. Да шурпатага, як сланечнікавы, лістка прыляпіўся паласаты жук-каларад; нядоўга думаючы, па звычцы яшчэ з маленства нішчыць іх, дзе ўбачыш, падношу да яго кончык запаленай цыгарэты — жук падае ўніз, як сухая ягадзіна, пакінуўшы на зялёным лісце аранжавую плямку. Да шула прыкручаны дротам латуневы рукамыйнік. Адразу за веснічкамі, што вядуць у агарод, нізкі квадратны калодзезь. На накрыўцы з ацынкаванай бляхі коса ляжыць «крук» — гладкі, выслізганы рукамі дручок з сагнутым цвіком на канцы. Унізе на дзвюх цаглінах дошка, каб ставіць вядро, побач, пад штыкетнікам у вымоіне, куды плюхаюць лішнюю ваду, некалькі вастралістых кусцікаў фіялетавых касачоў, «казакі» — у нас завуць. Справа і злева ад студні, адна ля штыкетніка, другая ў агародзе, дзве старадаўнія яблыні, з дробным лісцем, хворай карой — старыя да таго, што ўжо не даюць пладоў; ды і раней, памятаю, у маладых іх, яблыкі былі нясмачныя, цвёрдыя, як камень, але за голле трымаліся з усіх сіл, не хацелі ні струшвацца, ні ападаць, віселі, калі ўжо прымаразак браў і не заставалася на галінах ні лісціка. Ні ў кога ў вёсцы больш такіх не было, ніхто не ведаў, што за гатунак, затое ніхто на іх і не квапіўся, не латашылі па начах, таму грады былі цэлыя. Неяк маці паслала мяне назбіраць іх кабану — дзеля эксперымента, каб паглядзець, што атрымаецца; насыпалі поўнае карыта, парсюк з гарачкі кінуўся грызці, зачаўкаў і раптам застыў, разявіўшы зубаты рот, нібы хацеў праз сілу ўсміхнуцца; з рота пабегла сліна, сутарга пачала зводзіць шчэлепы — і яму, і нам,

на яго гледзячы, — а ён жаласна, з няшчасным выглядам пазіраў на нас прыплюснутымі, поўнымі слёз вочкамі з белымі вейкамі. Я тады не ведаў, што ў іх, як і ў людзей, можа быць аскома.

«...Грыбоў гэтым годам — а браце! — цяпер Тацянін голас з кузьма-чорнаўскімі інтанацыямі («а браце», «чалавеча», «добра кажа»). — Ніводзін год такога не было, каб так расло ўсё. Што на градах, у каго соткі, што ў лесе — аж страшна, як перад вайной, і хлопчыкі нараджаюцца... А ўжо чарніц! лісіц! — я столькі ніколі не бачыла. Толькі страшна, усё зарасло, як джунглі, я баюся таго лесу, столькі ў ім гадасці: і ласі, і козы, і ваўкі, і яноты, а ўжо кабаноў! — усё зрылі лычамі... А то чуеш, я табе раскажу, адзін раз так перапужалася: што там такое робіцца каля рэчкі?!. Аж то ліса вожыка качае! Хоча ў ваду закаціць, каб ён выдаўжыўся! А яна тады з-пад нізу кіпцюрамі шкрэб па жываце...»

Веснічкі на вуліцу самі сабой пачалі памалу адчыняцца, і з вуліцы паміж шулам і веснічкамі, штурхаючы іх галавой і бокам, прашыўся кот, белы з чырвонымі вачыма, вялы, хваравіты з выгляду, як усе альбіносы; не даходзячы да нас, за метр спыніўся і пачаў церціся выгнутай спінаю аб штыкетнік.

«Не галодны, — сказала Тацяна. — З вашай хаты сюды ходзяць. А яна, добра кажа, па мне хай дома чалавека не будзе, абы кот быў. Хай яны падохнуць, тыя каты... А то чуеш — раз уночы як зрабілася — гром, маланка, бура, канец свету, навальніца! — шыбы звіняць, сыплюцца, нешта лопаецца, нешта падае!.. Я спрасонку так і падумала: вайна, тут жа да Украіны во, даплюнуць можна... Я з ложка — ды пад падлогу ў склеп, а яно нешта — ды па нагах! ды пад сарочку! Я назад — а ў хаце зноў як трэсне, як бухне! — я зноў у падполле! Цырк... Пакуль не здагадалася ды не запаліла свечку, ды пад абраз, ды пачала маліцца — от тады толькі пачало сціхаць... А як развіднела, узяла ліхтарык, заглянула ў тое падполле, а там — мураш-

нік, шар з мурашак, як футбольны мяч, нейкіх рудых, маленькіх, як пчаліны рой... Перш хацела бензінам спаліць, а як ты пад хатаю спаліш... Акрапіла вадою, змяла венікам у вядро ды ў рэчку занесла высыпала...»

Уверсе, на заходнім баку елкі і на вершалінах яблыняў яшчэ залаціліся рэшткі сонца, а тут, у двары, ужо сутонне. Вось-вось сцямнее. Мне трэба было пазваніць у Мінск. У нізкім двары не браў тэлефон, і я выйшаў на вуліцу (альбінос — следам). На вуліцы быў новы, месяц назад пакладзены асфальт, тады ж і саму вуліцу падсыпалі, паднялі больш чым мо на метр — і тут, стоячы на гэтым нязвыкла высокім насыпе, я не ўтрымаўся, крадком зірнуў на сваю хату... У гэты момант адно з трох акон, крайняе, злавіла шыбкай апошні сонечны промень, бліснула ў вочы, нібы прывіталася, — і так соладка і горка сціснулася сэрца! Менавіта каля гэтага акна я, малы, любіў чытаць вечарамі, у сутонні, прыпадаючы грудзьмі да падаконніка, носам водзячы па старонках... Усё, схавалася сонца. І адразу пацягнула ветрам, зашапацелі, затрымцелі лісцем яблыні.

Мы зайшлі ў веранду, Таццяна ўключыла святло, мы прыселі за стол выпіць па чарцы. І ўсё пад рэфрэн роўнага Таццянінага голасу; яна расказвала, як былі ў яе куры, рабая і чорная, і пацукі (Таня казала — «крысачы») навучыліся красці з-пад іх яйкі, проста з кубла — адзін лягаў на спіну, абхопліваў лапамі яйка, прыціскаў да жывата, а другі цягнуў за хвост... З веранды на двор, на траву падала паласа святла, таўкліся, кружыліся, танцавалі на мяжы светлага і цёмнага раннія начныя матылькі — соўкі, тоўсценькія, з маленькімі, як у молі, крыльцамі, і, гледзячы на іх, я адчуваў, што ў мяне ў самога кружыцца галава, тахкае сэрца, ходзіць у грудзях цёплая хваля: ці то ад Таццянінай самагонкі, бурштынавай, як віскі, з пахам свежага хлеба, ці то нарэшце пачаў адбывацца ўва мне пераход ад сузірання, накаплення — да рэалізацыі...

Праз адчыненыя дзверы віднеўся кавалак неба, яшчэ не зусім цёмнага, але ўжо засеянага дробнымі мігатлівымі зоркамі, і адна, самая бліжняя, самая яркая, марудна перасякала неба — рухалася з усходу на захад, ледзь пульсуючы, пакідаючы за сабой роўненькі, як хто вёў алмазам па шкле, белы след.

## II

Ён сядзеў на Фрыдрыхштрасэ за столікам каля в'етнамскай кавярні, у якой толькі што паабедаў (востры духмяны суп з крэветак, кавалак смажанай свініны з таксама вострай марынаванай морквай на гарнір, дзве чаркі моцнай, 70 градусаў, кітайскай рысавай гарэлкі), і вось, без 20 еўра ў кішэні, затое з поўным страўнікам і з лёгкай душою, сядзеў, курыў, расшпіліўшы куртку, паклаўшы на столік побач з попелкай шапку і пальчаткі (жонка б за гэта не пахваліла — кепская прыкмета).

Зіма, снежань, хутка Новы год, а ні снегу, ні марозу. На дрэвах сям-там жоўтае лісце. Пакуль ён абедаў, яшчэ больш пацяплела, нават нейкая пазнака сонца прабілася: не так было відно, колькі ўгадваўся яго дыск, прасвечваў праз смугу аранжава-апельсінавым святлом. Збоку, на газоне, свяцілася блакітная сінтэтычная елачка, пад якой стаялі два пузаценькія лялечныя Санта-Клаўсы — у чырвона-белых кажушках і шапачках, з белымі барадамі; адзін звычайны, падобны на нашага Дзед-Мароза, другі — негр; для поўнай еўраталерантнасці не хапала яшчэ аднаго — жаночага полу.

«Усё па два, — падумаў ён. — Дзве чаркі гарэлкі, два Санта-Клаўсы, два сябры цяпер са мною».

Ён расслаблена, задаволена, сыта курыў, пазіраў на елачку, на вітрыну насупраць, якая падміргвала, пералівалася, пульсавала агеньчыкамі, фарбуючы ў розныя колеры тратуар, на машыны, на людзей і думаў пра эвалюцыю беларускага пісьменніка, дзівіўся, як

рассоўваюцца яго геаграфічныя межы. Вось сядзіць ён у цэнтры Берліна, а яшчэ ўчора быў у Мінску, а пазаўчора (ці калі? васямнаццатага? не, дзевятнаццатага, на Міколу) — у роднай вёсцы, калі прыехаў да Тані, стрыечнай сястры, і яны пайшлі на могілкі; была сапраўдная беларуская зіма, мароз, сонца і адначасова снег — падалі з неба рэдкія, буйныя сняжынкі, кружыліся, блішчалі на сонцы — а мы сунемся па цаліку, сястра з палкай паперадзе, я маладушна ззаду, ступаючы ў яе сляды, шкадуючы новых чаравікаў; я і цяпер у іх, у гэтых жоўтых чаравіках, на якіх, канечне ж, хоць нейкія мікраскапічныя родныя пылінкі засталіся... А прыемна так плаваць то ў першай, то ў трэцяй асобе, думаць пра сябе то «ён», то «я».

Раптам крыху запознена пачало дзейнічаць спіртное. Мацней забілася падагнанае тытунёвым дымам сэрца, ажыла кроў, цёплая хваля пайшла ў кончыкі пальцаў ног. Стала беспрычынна лёгка, амаль радасна. Хаця чаму беспрычынна? Наадварот, многа прычын. Гэта і апельсінавае святло, і блакітная елачка, і што хутка любімы Новы год. І што апавяданне яго пераклалі на нямецкую мову, дзякуючы чаму ён тут і апынуўся, запрошаны на кніжную выставу. Што ў яго атрымліваецца спраўджваць дадзенае некалі самому сабе абяцанне: колькі б разоў ні быў у Берліне — абавязкова прайсці тым самым маршрутам, што і некалі ў першы свой прыезд сюды, гадоў дваццаць назад, таксама на нейкую кніжную выставу, толькі звязаную з драматургіяй. Тады было лета, ён — з картай у руцэ, аглушаны чужагалоссем мовы, зусім непадобнай на тую, якой вучылі іх у школе і ВНУ (хто б мог падумаць, што яна спатрэбіцца? альбо што спатрэбіцца калі-небудзь яму нямецкая драматургія?) — ішоў куды вочы глядзяць, пакуль не апынуўся перад саменькімі дзвярамі Літаратурнага дома-музея Брэхта (ці Брехьта, як немцы змякчаюць), драматурга! — але не надта здзівіўся, гэтаксама, як не здзівіўся

аднойчы ў Маскве, калі, таксама ўлетку, ратуючыся ад невыноснай спёкі — пеклам патыхала ад дарогі, ад сцен, асфальт нават на ценевым баку вуліцы прыліпаў да падэшваў, — ішоў, думаючы чамусьці пра Гогаля, завярнуў у нейкі стары маскоўскі дворык, і першае, што ўбачыў — пад цяністымі ліпамі чорны бюст даўганосага чалавека, далей двухпавярховы асабнячок літарай П; шыльда на сцяне пацвярджала, што гэта той самы дом, дзе паміраў Гогаль; праз лісце ліп можна было разгледзець комін, з якога вылецелі ў вечнасць «Мёртвыя душы», том другі.

А за сцяной гэтага брэхтаўскага дома-музея пачыналіся могілкі, больш падобныя на парк: зялёны, ідэальна чысты. Старыя і маладыя дрэвы заглушалі гукі мегаполіса. Заліваліся птушкі. Тут не было вянкоў, пластмасавых кветак, агароджаў у чалавечы рост. Каля абеліскаў і склепаў на зямлі не стаялі мутныя, пажаўцелыя і пачарнелыя, налітыя дажджавой вадой чаркі (з якіх у нас частуюцца нябожчыкі). Былі акуратныя дарожкі, дзе выкладзеныя пліткамі, дзе брукаваныя, дзе высыпаныя рознакаліберным гравіем, які асцярожна і прыемна храбусцеў пад нагамі. Паўз дарожкі цягнуліся вечназялёныя кусты, жывая агароджа з мірта, самшыта, астраліста і, здаецца, нават з экзатычнага карлікавага падуба — усё ў форме геаметрычных фігур: прамалінейныя і крывалінейныя, авальныя, як пад лякала, і круглыя, як пад цыркуль; скрозь па зямлі, па кустах, па ствалах дрэў да самай кроны вісеў, віўся, поўз плюшч. У дальнім кутку хавалася лавачка пад бэзавым кустом, не кустом — дрэвам, так раскідаўся, вымахаў гэты берлінскі бэз — вышэй за ліпы і букі.

Потым ён даведаўся, што выпадкова трапіў на Dorotheenstädtischer Friedhof, знакамітыя могілкі французскіх гугенотаў, што гэта музей-запаведнік, ахоўваецца дзяржавай, што тут пахаваныя Гегель, Томас Ман, Брэхт, Грас... Так яму там спадабалася, такім сваім, запаветным зрабіўся гэты зялёны куточак,

лаўка пад бэзам, што ў кожны свой прыезд у Берлін ён пачаў хадзіць сюды — нібы аддаючы даніну сабе цяперашняму, а сабе ранейшаму робячы справаздачу («добры дзень, ліндэн-ліпа, пазнаеш мяне? — вось я зноў, жывы, дакранаюся да тваіх трэшчынак...»)

З кожным разам ён быццам падрастаў. Цяпер, у гэты чацвёрты па ліку прыезд, ён ужо мог быць самому сабе, і сваім нябачным сябрам, не толькі экскурсаводам, а і перакладчыкам, бо нарэшце хоць збольшага пачаў разумець па-нямецку. Маленькая перамога. Нібы вылецелі з вушэй серныя пробкі, ці як пасля самалёта, калі заціснуць нос і моцна выдыхнуць праз вушы: піск, трэск, і вось пачынаюць аддалёк вяртацца знаёмыя гукі і словы. Нарэшце ён вырваўся з моўнага палону, з гэтага манатоннага кашмару, перастаў быць удзельнікам нямога кіно, дзе на яго долю перападалі толькі пейзаж, нацюрморт і дэкарацыі. Узрушаны, узрадаваны, ён цэлы дзень тоўкся сярод людзей у выставачным павільёне, спыняўся каля боксаў, стэндаў і прагна слухаў, прычым цікавіла яго не столькі лексіка, колькі асаблівасці маўлення, інтанацыі, а яны, як адбіткі пальцаў, аказваецца, у кожнага розныя: напрыклад, з усіх бакоў ён чуў: бейлін, бегін, берляйн, полен, болен, а ўсё гэта азначала — Берлін.

* * *

Сонца на міг зусім вызвалілася з-пад воблака, ад столікаў, сцен, ад прыпаркаваных машын, ад дрэў леглі ўпоперак вуліцы цені, — і зноў гэтае аранжаваапельсінавае святло перанесла на тыдзень назад, зноў пішчыць пад нагамі малады снег, падаюць, кружацца рэдкія вялікія сняжыны... Свеціць сонца. Снег чысты, зіхоткі, аж балюча на яго пазіраць. Збоку па снезе марудна рухаюцца два цені — дзявоча-падлеткавы Танін (а ёй шэсцьдзясят пяць!), і мой — няўклюдны, гарбаты, бо за спінай рукзак, дзе выпіўка і закуска. Іншая справа, чаго туды ісці такой парою, такім сне-

гам — тым больш я толькі прыехаў, нават за сталом не пасядзелі, — але гэта ўжо мясцовая традыцыя: колькі сябе помню, яшчэ калі матка была жывая, як толькі прыязджаў, перш чым сесці за стол, выпраўляліся на могілкі. Больш за тое — гэты паход яшчэ трэба заслужыць, не кожнага возьмуць; напрыклад, Танін кавалер — Валодзя (жыве ў мястэчку Каменка за 4 км, хоча да Тані ў прымы, цяпер яны пасвараныя, і ён прыйшоў мірыцца), пакараны, як малое дзіця за шкоду, і пакінуты дома.

Таня ў джынсах і ў валёнках, на ёй аранжавая гарналыжная куртка-анарак з капюшонам, з-пад якога выбіваюцца махры хусткі-канаплянкі, невядома з якога куфра выцягнутай, бо даўно такіх не выпускаюць. Перад тым, як ступіць, яна мацае палкаю снег.

«Ты пабач, ну! — сама сабе здзіўляецца яна; голас задыханы, але вясёлы, звонкі ў вясковай цішы. — Якая я стала старая шкарбонка, як каракаціца! Хіба я такой была? Я ж не хадзіла, а лётала!..»

Таня ў нашым родзе — блудная дачка, саромная пляма на гонары сям'і. Мне было пяць, ёй пятнаццаць; памятаю нешта імклівае, як агонь, рыжае, як вавёрка, з задзёртым носікам, вострымі зубкамі, над вушамі куцыя коскі з банцікамі; хуліганістая, трохі, а мо і не трохі, без цара ў галаве; як усе такія «адорвы», сябравала з хлопцамі, прычым большымі за сябе, гуляла ў футбол, хакей, у разведчыкаў, у ножыкі, у чыку і ў карты на грошы. Неяк на летнія канікулы паехала ў пасёлак Цыгламень Архангельскай вобласці ў госці да нашага дзядзькі, які працаваў там у порце, ды так дамоў і не вярнулася — імгненна ўляцела ў нейкую гісторыю, нешта звязанае з ранняй, школьнай цяжарнасцю, а ў тыя часы гэта было страшней за вядзьмарства ў сярэднявеччы. Яе бацькі, а мае дзядзька з цёткаю, Сцяпан і Каця, хадзілі апранутыя ў чорнае, на фальшыва-спачувальныя роспыты адказвалі: «Горэ, чалавеча! Горэ!» І хоць Таня неўзабаве выйшла там

замуж — ці за таго самага мясцовага рускага, які яе акруціў і спакусіў, ці за другога — не ведаю, памятаю толькі, што з таго часу ў нашай радні само імя яе пачало вымаўляцца як непрыстойнае слова, і доўга яшчэ потым, калі згадвалі яе пры дзецях, чырванелі, паніжалі голас, прыкладалі палец да вуснаў.

Зрэдку Таня прыязджала ў вёску да бацькі з маткаю, спачатку з дзецьмі — двума белабрысымі хлопчыкамі-пагодкамі, потым з чалавекам, Валодзем, рахманым паморам-русацяпам з белымі вусамі. Пітушчы. Частаваў нас, малых, цыгарэтамі з фільтрам і расказваў, як выпіваў з Высоцкім. Не ведаю, дзе ён пасля падзеўся, казалі, што нібыта раздавіла бярвеннем на сплаве, ці то яны проста развяліся; як бы там ні было, Тацяна без мужа, з двума вялікаватымі ўжо хлопцамі вярнулася на радзіму, у апусцелую хату — да таго часу неяк раптоўна, у адзін год, не стала дзядзькі Сцяпана з цёткай Кацяю, пачала працаваць у парніках у Каменцы (памятаю сярод зімы памідоры, гурочкі, салатавага колеру маленькія качанчыкі капусты). Сыны выраслі, пажаніліся, абодва ўзялі ў жонкі мясцовых беларусак, гарадскіх, з кватэрамі, — а Таня так і жыве ў бацькоўскай хаце адна, ці, як апошні час, з кавалерам.

Цікава, што ў гэтага яе кавалера з Каменкі мала таго што аднолькавае з першым мужам імя, дык яны яшчэ і знешне падобныя: светлыя валасы, белыя вусы, нават адзін і той жа світар пад горла, з аленямі на грудзях і з арнаментам на рукавах; толькі што той архангельскі Валодзя быў роўны характарам, а гэты, каменскі — пераменлівы. Я бачыў яго ўсяго тры разы, і кожны раз у новай фазе. Першая — звычайны мужчына, працуе ў кацельні, трымаецца годна, гаворыць па тэме, не перабівае, але і сябе не дае перабіць, цікавіцца палітыкай, нават вядзе блог у сацсетках. Другая — калі сарваўся на паўгода на заробкі ў Расію, адкуль прыехаў ганарысты, непрыступны, выцягваў з кішэні жмуткі рускіх рублёў і яшчэ больш іх камечыў, піў

чамусьці з рыльца, хоць сядзелі за сталом і былі чаркі, падпіўшы, геройнічаў: «Да я! да мне!», паплёўваў пад ногі, біў сябе ў грудзі, ледзь не рваў на сабе сарочку... І нарэшце фаза трэцяя — прыніжаны, прысаромлены, пакорлівы.

«...Тыя дзеці, тыя ўнукі, — філасофствуе Таня. — Не едуць, не хочуць, а прыедуць, то ўставяцца ў планшэты, ні лесу не знаюць, ні рэчкі... От пакуль здаровая, ды нічога не баліць, а там каму я буду трэба? Цяпер дзеці не глядзяць бацькоў. Шчаслівы той, хто іх не мае! — і адразу ж выцягвае з кішэні смартфон, каб у соты раз пахваліцца: — Паглядзі, якія ў цябе пляменнікі!»

На матавым экранчыку пры ўсім жаданні нічога не разгледзець, але я і так на памяць ведаю: два амбалы з кароткімі прычоскамі, як у фільмах пра 90-я, два сінявокія, белабрысыя нашчадкі Ламаносава, стаяць — адзін каля «БМВ», другі каля «мерседэса»; ведаю таксама, якія яны зухі, спрытныя, удачлівыя, абодва працуюць у Расіі — паўгода там, паўгода дома: цяпер гэта лічыцца (куды мне з маім пісьменніцтвам) неблагой кар'ерай. Няньчачы ўнукаў, Таня прыгаворвае: «Расці, дзіцятко, вялікае, вырасцеш — будзеш, як бацька, у Расію ездзіць...»

Квадратныя могілкі абгароджаны высокім штыкетнікам. Каля плота на пухнатым снезе зусім свежыя заечыя сляды: дзве лапкі-кропкі побач і дзве — адна за адной. Са снегу тырчаць дубцы акацый, побач — такой самай таўшчыні і вышыні высахлыя сцяблінь палыну з дробнымі, бы верасовыя, пачарнелымі кветачкамі на канцах.

Памагаю Тані адсунуць варотцы. Тут снегу яшчэ больш, чым на полі, нанесена амаль да паловы штыкетніка, бо ёсць чаму затрымліваць. Магілы дабраліся да самых варот, даўно возяць сюды хаваць з горада, і такое адчуванне, што ўсе гэтыя новыя помнікі, крыжы, агароджы ставяцца і лепяцца абы-як, дзе папала,

адно на адно, крыва і коса, не пакідаючы ні сцежачкі, ні праходу.

«Ты пабач, — дзівіцца Таня. — Як я не падумала? Сюды ж не ўлезеш».

Мы стаім у нерашучасці. Ні ёй, ні мне не хочацца ісці. Тым больш усе Таніны пахаваны ў дальнім ад варот усходнім кутку, мае — у дальнім заходнім.

«Столькі снегу... Яны яшчэ абрыднуць, гэтыя могілкі... Хадзем, мабыць, назад...»

Недалёка, метраў за дзесяць, магіла майго сябра і аднакласніка Сержыка. Вырашаю, раз я ўжо тут, адведаць хоць яго. Ступаю — і адразу правальваюся ў рыхлы снег вышэй каленяў.

«Яны тут не забытыя, — усё нібы апраўдваецца Таня. — Я сюды часта хаджу. І палю, і шышкі вырываю, і акацыі гэтыя сяку — а такое паскудства! — карані як вяроўкі, самі як дрот, сякера спружыніць, ссячэш адну, а праз тыдзень на тым месцы дзесяць...»

Сціплы помнічак з гранітнай крошкі. Снег наліп на партрэт, не відаць яго, затое добра бачны залацістыя літары і лічбы, надта мне знаёмыя і не надта прыемныя ў такім месцы — мае год і месяц нараджэння. Нас трое нарадзілася ў адзін год і ў адзін месяц: я, Сержык і Віця Смолер, і былі мы як браты, жыць не маглі адзін без аднаго, заўсёды разам, усё было агульнае: школа, урокі, кніжкі, рыбалка, гульні... Ніколі не біліся. Але пасля школы — армія, новыя сябры, дзеўкі... Калі з Віцем Смолерам мы яшчэ нейкую сувязь падтрымліваем, зрэдку, у агульны дзень нараджэння, сазваньваемся (важны, салідны чалавек, рэктар будаўнічага каледжа, у яго дарагая машына, дача ў Крынічным), дык з шалапутным Сержыкам мы ні разу пасля школы не бачыліся, і ў курсе яго дарослага жыцця я быў толькі завочна. У кожны свой прыезд пытаў у маці: «А дзе Сяргей?» — на што атрымліваў пачарговыя адказы:

«Служыць у Кранштаце!»

«Жаніўся!»

«Развёўся!»
«У цюрме!»
«Выпусцілі з цюрмы!»
І апошні раз: «Дзе Сяргей?»
«На могілках! Картоплі пайшоў красці, ды ўбілі лапатаю!»

Здымаю пальчаткі; па-дзіцячы пахукаўшы на пальцы, змятаю снег. З авальнага партрэціка на мяне ўважліва пазірае Сержык: падрэтушаваны, падфарбаваны, да нельга саладжавы — і ўсё адно надзіва падобны на таго, якім быў у 6–7-м класе, толькі чамусьці ў касцюме і ў гальштуку з недарэчным шырокім вузлом. Сонца коса падае на помнік, асвятляе партрэцік, ад чаго вочы ў Сержыка як жывыя; здаецца, зараз ён падміргне і скажа: «Як я вас?»

Ззаду ля варотцаў Таня гучна, на ўсе могілкі расказвае:

— ...Прыйду, па матцы паплачу, а па бацьку не буду, ён на мяне сварыўся: то я п'ю, то куру, то гуляю...

Вяртаючыся назад, справа ад варот заўважаю новую, яшчэ без агароджы, магілку. Прысыпаныя снегам вянкі. На стандартным, звараным з труб крыжы таблічка, на якой белай фарбаю... зноў мой год і месяц нараджэння! Праціраю вочы. Нейкае сапраўднае le déjà vu.

— Віця Смолер, — абыякава пацвярджае Таня (яна ж не жыла ў вёсцы і не ведае, што мы былі, як тры жалуды на адной галіне). — Увосень пахавалі! А багата хавалі! з вянкамі! а людзей-людзей было! Лапатаю ўбілі, — пацішыўшы голас, паведамляе яна інтымна.

— То не яго, — машынальна папраўляю.

— Яго! Жонка на *почве* рэўнасці! Недзе на дачы ў Крынічным! Не спецыяльна, яна і не хацела, ды неяк так махнула з гарачкі, так пацэліла ў спіну, што лёгкае адарвалася! Пахіркаў трохі ў бальніцы ды памер... Ты пабач, ну! — раптам ускліквае яна, павярнуўшыся ў бок вёскі і паказваючы палкаю. — А яно ідзе!

Валодзя, яе кавалер, ішоў да нас па нашых слядах. Пабачыўшы, што на яго глядзяць, спыніўся. Таня грозіць яму палкаю.

— Я табе пакажу! Збіў мяне на сухрак (што такое «сухрак»?). Хай віну сваю помніць, — але па голасе адчуваецца, што яна задаволеная: і ў такія гады ў яе ёсць кавалер.

Брыду следам за ёю назад і сам з сябе дзіўлюся. Амаль абыякава на душы. Зусім не агаломшыла навіна, што я ўжо адзін з трох застаўся. Толькі варушацца ў галаве — вось яшчэ адзін нумар будзе выдалены з тэлефона, а таксама — нейкая недарэчная (ці наадварот, дарэчная), гуллівая думка, якую хачу і не магу прагнаць: чаму зноў лапатаю? Што за мода? Ці праўда, што існаваў некалі на Заходнім Палессі суровы спартанскі абрад, жорсткі звычай, які так і называўся — «лапатня»: старых, нямоглых, слабых заводзіць на могілкі і забіваць лапатаю?

Валодзя, чакаючы нас, стаяў навыцяжку. Нават вусы не тапырацца, а вінавата апушчаны кончыкамі ўніз. Калі мы падышлі, ён, каб паказаць, як каецца, сцягнуў з галавы спартыўную шапачку. Пакуль нас не было, ён напаліў грубку, вымыў падлогу, потым, у хаце, не даваў Тані ў рукі нічога ўзяць: дастаў прыпасы, якія прынёс у брызентавым рукзаку, насмажыў каўбасы, яечні на сале, сам сабраў на стол. Не было ніводнага нашага слова, з якім бы ён імгненна не згадзіўся: «усё так, чыстая праўда, правільна кажаце». І хоць мы выдатна ведаем, што дастаткова мне паехаць, а яму выпіць, як усё можа змяніцца, — але ж так прыемна мець хоць часовую ўладу над кімсьці, лішні раз папікнуць чалавека, які выпрошвае дараванне.

Увечары выходжу на двор. Марозік. Пара з рота. Цішыня. Ні гуку. Цені ад слупоў, ад плота. Цераз вуліцу чарнее мая хата, у якой даўно жывуць чужыя людзі. Малады сярпок месяца на чорным, з залатымі крапінкамі зорак, небе — не вертыкальны, а нахілены, амаль ляжыць, як на каляровай вокладцы кнігі Гогаля

«Вечары на хутары...». Утульна свеціцца жоўтае акенца за гіпюрнымі фіранкамі. Абсалютна сіні снег. І пах дыму з коміна — салодкі, першабытна-радасны, як пах смажанага мяса летам у курортных гарадах каля мора.

Вось так стаяў на гэтым самым месцы, калі мне было пяць гадоў, глядзеў на плот, ад якога і тады ляжаў такі самы зубчасты цень на сінім снезе. І якая ж тады, у пяць гадоў, была радасць, якое шчасце! — не ад пазнавання новага жыцця, а ў сто, у тысячу разоў большае — ад вяртання ў жыццё старое, знаёмае (з якім нядаўна так страшна развітаўся, здавалася, назаўсёды); і з кожным удыхам гэтае жыццё ўлівалася ў кроў, з кожным зіркам павялічвалася; вастрэлі пахі, колеры, гукі...

Мае сябры чакаюць мяне на вуліцы, клічуць мяне, і вось мы зноў разам, абдымаемся, радасныя, жывыя, і ўсе блізкія побач, смяюцца, віншуюць: ну вось і скончылася твая вандроўка, і нічога страшнага, а цяпер зноў усё па-новаму! — менавіта так і ўяўляецца мне смерць — як вяртанне да пачатку, да дзяцінства, да маці, сяброў, да маіх дзяўчынак, напаленай печы, дарогі ў школу, да кніг, хакея, цнатлівасці... Усё зноў упершыню, зноў так востра і зусім нястрашна. Калі б людзі не ведалі, што яны бессмяротныя, яны не жылі б і аднаго дня, і адной хвіліны, а, сабраўшыся разам, адной вялізнай атамнай бомбай узарвалі б і сябе, і ўсё на свеце. Але кожны выдатна ведае, што ён бессмяротны, што калі аднойчы нарадзіўся — гэта ўжо навек.

У хаце Валодзя сядзіць, панурыўшыся, Таня ківае яму пальцам:

— ...І не дай Бог! не дай Бог! — з лукашэнкаўскім надрывам выгаворвае яна, — яшчэ на мяне падымеш руку! Вазьму якую лапату...

* * *

Ён падняўся з-за століка, уціснуў у попелку недакурак («ну што, хлопцы, хадзем, павяду вас»), і

пайшоў — няспешна, маленькімі крокамі, каб расцягнуць час, балазе ісці было недалёка. Каля метро U-Oranienburger Tor ледзь не пасярод тратуара, упрытык да жоўтай лініі веласіпеднай дарожкі, стаяў кіёск кшталту нашага «Белсаюздрука», толькі ў гэтым за вітрынным шклом замест газет, часопісаў і канцылярска-школьна-пісьмовых прыладаў стаялі напаказ спіртныя напоі ў пляшках розных калібраў. Ён абышоў кіёск вакол, нагледзеў бутэльку з цёмназялёнага шкла, пляскатую, з зялёным яблыкам на этыкетцы, назбіраў па кішэнях цяжкіх манет па два еўра і дробных, каб без рэшты; фраў з белымі валасамі, перахопленымі чырвонай павязкай, як у біятланісткі Лауры Дальмаер, падзякавала і ўсміхнулася яму. Пляшка прадбачліва была выгнутая пасярэдзіне, яна легла ў кішэню, як там і была; прыемным цяжарам адвісла левае крысо курткі. Ніколі не перастану здзіўляцца такім, здавалася б, простым, а на самай справе дзівосным рэчам: у чужым горадзе, на чужой мове нешта папрасіць, разлічыцца чужымі грашыма, і табе, як ні ў чым не бывала, з падзякай, з ветлівай усмешкай імгненна падаюць менавіта тое, што ты і хацеў, — акурат як некалі ў нашым вясковым магазіне падавалі мне «Яблучнэ міцнэ».

Яго абагнала маладая мама, немачка з прыгожымі, хоць крыху поўнымі ў калготках ножкамі; за спінай рукзачок, у руцэ ля вуха мабільнік, ззаду сынок, маленькі немчык, адстаўшы, бегаў зігзагамі ад аднаго краю тратуара да другога і на ўсю вуліцу мяўкаў: «мяў! мяў! мяў!» Не паспеў ён здзівіцца гэтаму славянскаму мяўканню, а таксама пазайздросціць, што вось такі маленькі, а ўжо без усялякай вучобы, без курсаў-семінараў-практыкумаў-стажыровак так ведае мову, — як мама ўстрывожана крутнулася ўправа-ўлева, назад, усклікнула — з раздражненнем і адначасова з палёгкай — па-руску: «Руку дай, т-ваю макаўку!..» – і зноў затрашчала ў тэлефон па-нямецку.

Фрыдрыхштрасэ перацякла ў Chauses str., злева паказаўся хмарачос на Robert-Koch-Pl., справа — цаглявая, тэракотавага колеру сцяна, у якую метраў праз сто ўкліньваўся бокам новы хайтэшны аляпаваты будынак Каталіцкай акадэміі. У сцяне ён убачыў уваход, якога раней не было, — вузкі, мажнаму чалавеку і бокам не працiснуцца, зайшоў і апынуўся на цэнтральнай алеі могілак. Ён ніколі не быў тут зімою. Зіма, нават такая, як цяпер — еўразіма, перамяніла ўсе дэкарацыі. Ён зразумеў, што дарэмна сюды ішоў. Хай бы заставаўся ў памяці зялёны, з сонечнымі плямамі, з птушыным шчэбетам, чысты, ціхі яго куточак. Цяпер больш рэзка кідаўся ў вочы чорны і шэры мармур магіл, засыпаных апалым лісцем; сям-там у цёмных кутках нават ляжалі латачкі снегу, якія нібы саромеўся, што такі брудны і так мала яго; ствалы дрэў былі ў плямах лішайніку, у голых вершалінах — гнёзды; унізе слалася нейкая ненатуральна-зялёная расліннасць, падобная на наш бруснічнік ці барвінак, і плюшч — дзе карычняваты, дзе падсохлы, дзе пабіты марозікам. На яго любімай лаўцы, якая і ўлетку заўсёды пуставала, цяпер сядзеў з непакрытай галавой, у расшпіленым паліто, у сініх акулярах сляпы, заціснуўшы між калень белую палачку, падстаўляючы, як сланечнік, твар нябачнаму сонцу. Магіла Брэхта, як заўсёды, была засыпана алоўкамі і шарыкавымі ручкамі і застаўленая лампадкамі. Каля маленькага помніка Гегелю стаялі тры рабочыя (адзін нагнуўся) і разглядвалі зроблены наўскос сінім маркерам надпіс: «Veralten! dummes Lehre!»

Ён пайшоў назад, скараціўшы шлях, і неўзабаве зноў апынуўся ля Каталіцкай акадэміі, толькі з другога боку. На маленькім пляцы паўкругам былі драўляныя лавачкі, пасярэдзіне тырчэлі пірамідкі туй, блакітных елак і з краю — адна маладая ліпа. Ён памацаў лаўку — халодная, дастаў газету, спецыяльна на гэты выпадак прыхопленую са століка каля рэсэпшн; перад тым як паслаць, зірнуў на першую старонку. Кары-

катура, перадрукаваная з «Шарлі Эбдо». Міжземнае мора, перакуленая лодка з мігрантамі, зверху над усім аграмадны, з барадой, як у Саваофа, Пуцін, з вады цягнецца дзіцячая ручка, сутаргава сціскаюцца пальчыкі, адчайнымі намаганнямі стараючыся ў апошні міг ухапіць хоць валасінку барады і ўратавацца.

Паслаў і сеў. Можна было пачынаць тое, дзеля чаго ён сюды ішоў і вёў сваіх бедных сяброў: паспрабаваць яшчэ больш ажывіць іх, уваскрасіць цалкам, каб пагаварыць з імі, паўспамінаць, сказаць кожнаму добрае слова, якое адшкадоўвалася пры жыцці.

«Ну што хлопцы, вып'ем?»

Але паблізу круціліся, выбіраючы месца для сэлфі, дзед з унукамі (двайняткі гадоў па пяць, у чорна-аранжава-жоўтых камбінезончыках, на першы погляд зусім аднолькавыя, і ўсё ж адразу можна было вызначыць, хто дзяўчынка і хто хлопчык) ды на пляцоўцы перад уваходам у акадэмію таптаўся малады чалавек, абвязаны паверх каўняра спартыўнай курткі шалікам з лагатыпам мюнхенскай «Баварыі». Шустрыя двайняткі, шчабечучы артыклямі: die, das, dem, ein — пабегалі вакол елак («blau Baum»), туй, выбралі ліпу («kleine Linden»). Ліпа і праўда была вельмі прыгожая, асабліва на гэтым рассеяным берлінскім сонцы — уся абсыпаная насеннем, нібы жоўтымі вялікімі стракозамі; здалёк можна было падумаць, што яна забыла скінуць восеньскае лісце. На лаўцы ляжала адна такая «страказа» — два празрыстыя сухія крыльцы, прымацаваныя да ножкі, на якой яшчэ і шарык, як гарошынка чорнага перцу. Дзед у цірольскім капелюшы трымаў у адной руцэ сумку, з якой вытыркаўся з'едзены да паловы батон-багет, у другой — сэлфі-палку, выставіўшы яе, як рыбак-мармышачнік вудку, і гэтак сама дзюбаючы ёю. Нарэшце — пайшлі. А малады чалавек усё сланяўся ля паркоўкі, як непрыкаяны; кудлатая галава ўціснута ў каўнер, рукі ў кішэнях; то ён ставіў нагу на бардзюр, то нагінаўся і правяраў надзейнасць металічных слуп-

коў, якімі ад праезджай часткі былі агароджаны газон і тратуар, то закладваў рукі за спіну, задзіраў галаву ў неба і калываўся з насоў на пяты, і па ўсім было відаць, што чалавеку абсалютна няма чым заняцца.

Дарэчы, на смак і на пах «Апфель» — як кальвадос.

Ён заплюшчыў вочы. Вось зіма, Сержык — у кажушку, у шапцы з апушчанымі вушамі, збіраецца на паляванне, чапляе на плячо стрэльбу руляю ўніз і робіцца падобным на героя-падлетка з партызанскіх аповесцяў Валянціна Тараса...

Вось лета, сцежка ў лесе, шышкі пад нагамі, пах чарнічніку і багуну, Віця Смолер вядзе веласіпед, правай рукой трымаючы руль пасярэдзіне, у левай — цыгарэта, па-школьнаму схаваная ў кулак, — ён нешта ціха гаворыць, а напампаваныя колы пругка стукаюць аб карэнне, і пазвоньвае сам сабою званок...

Вось мы ўтрох, галава да галавы, нагуляўшыся ў хакей, ляжым на жыватах на снезе каля расчышчанай нашай хакейнай пляцоўкі і смокчам кавалачкі лёду...

І зноў лета, ружовая раніца, возера, чмокаюць каля берага ў траве карасі, і такі туман, што ледзь можна разгледзець паплаўкі... А вось мы вясною спрабуем футбольным мячом яшчэ не нагрэтую зямлю; а вось позняй восенню чакаем аўтобуса, каб ехаць у горад у кіно, на новую камедыю з Рышарам і Дзепардзьё, звінім у кішэнях капейкамі, спрачаемся, каму чарга купляць білеты, і кожны хоча паказаць, што менавіта ён сёння багаты... Не, нічога не атрымлівалася. Толькі-толькі яны пачыналі збірацца разам, як усё рассыпалася. Ён напярод ужо быў вінаваты перад імі. Баяўся глядзець ім у вочы. І зразумела, чаму: ён ведаў іхні фінал, а яны — не. Увесь час недзе за кадрам гэтых успамінаў — рэфрэнам да іх — гучала: «Што са мной будзе?», а ён адводзіў вочы і ніяк не мог вымавіць: «Загінеш ад лапаты»... Тут, канечне, не да рамантыкі і не да лірыкі.

Раптам ён зразумеў (а можа, памаглі некалькі глыткоў «Апфеля») — так, не атрымліваецца, рассыпаецца, не выходзяць тут і цяпер памінкі па сябрах — бо ўжо яму не трэба гэта. Ён ломіцца ў адчыненыя дзверы, а яно ўжо робіцца само, паміма яго волі, і пачалося яно адразу ж тады, на вясковых могілках, калі, не пытаючы ў яго дазволу, пачаў пісацца ў галаве новы твор. І за гэты час ужо намахана — ён паглядзеў на растапыраныя пальцы — ого, пяць раздзелаў, кожны па 10 старонак... І ў гэтым новым творы, вядома ж, знойдзецца месца і маім бедным сябрам таксама. А цяпер трэба іх адпускаць і вяртацца ў наша апавяданне, тым больш што малады чалавек, якога я палічыў за гультая-тунеядца, які быў знік, а цяпер зноў з'явіўся — з поліпрапіленавым, вясёлкавых колераў венікам і з сагнутым шуфлікам на доўгай ручцы, і ўжо старанна падмятае і без таго чысты пляц, усё бліжэй да мяне падступаючыся. Можна паспрабаваць угадаць, што будзе далей. Зараз наблізіцца, скажа «хай» ці старамоднае «гутэнтаг»? Папросіць «раўхэн»? Зробіць выгляд, што яго не цікавіць зялёная, да палавіны адпітая пляшка ў маёй руцэ? Вось ён ужо, спадцішка на мяне пазіраючы, перакладае ў левую руку венік і, выціраючы аб штаны правую, з сарамлівай, вінаватай, як у Танінага Валодзі, усмешкаю падыходзіць да мяне.

*2017*

## САХАЛІНКА

### I

Яна прыехала ў вёску ў верасні і засялілася ў хатцы на пагорку каля студні — акурат насупраць хаты Васіля Ропата. «Зброд», — першае, што падумаў Ропат, які адчуваў інстынктыўную варожасць да ўсяго нетутэйшага, не мясцовага.

Ён стаяў у сваім двары каля плота, нябачны, надзейна схаваны зараснікамі дзікіх сліў і, адхінуўшы калючую галіну, у прасвет назіраў за няпрошанай суседкай. Адсюль усё было відаць як на далоні. Студня, пагорак, голы двор, нават плотам не абнесены (сам Ропат разабраў яго і перацягаў на дровы), старая хатка, якую з незапомных часоў, колькі яна існавала, людзі чамусьці звалі «сахалінская», і ўсе, хто ў ёй жыў, кожная сям'я — а такіх на вяку Ропата памянялася не менш за дзясятак — аўтаматычна набывалі мянушку «сахалінцы»; і праўда — усе жыхары гэтай хаты былі крыху падобныя абліччам на тунгузаў ці якутаў: можа, цяклі ў жылах кроплі адной крыві, з'яўляліся яны якой далёкай раднёю, і іх, панасіўшы па свеце, прызямляла ў родным куце, а мо проста, пажыўшы тут, у адным месцы, у гэтых сценах, пакрысе набывалі паміж сабой падабенства — так з часам і сабакі робяцца падобнымі да сваіх будак.

Гэтая новая «сахалінка» таксама была скуластая, вузкавокая, худая. Яна патулялася па двары, схадзіла да студні; калі ішла адтуль з вядром вады, роўна трымала спіну, нават падавалася крыху наперад, нібы ішла супраць ветру. Потым, не ведаючы, што рабіць,

куды сябе прыткнуць, пазяхнула, прысела на ганку, закурыла, суха пакашляла. А Ропат стаяў і назіраў за ёю ўжо амаль адкрыта. Ён ведаў, што ні яго самога, ні ягонай хаты чужынцу так проста не разгледзець. Увесь яго двор ад ганка да веснічак, па ўсім перыметры плота да кожнага кутка надзейна, ушчыльную зарос нейкім лазняком, дзікімі слівамі, акацыяй і ляшчынаю, сям-там пракідаліся нават калючыя асінкі, якія звінелі сваім лісцем без ветру. Быў час, калі Ропат ваяваў з гэтай пошасцю: высякаў, вытручваў, выкопваў. Але хутка скеміў, што лепшай хованкі для сябе не прыдумаеш, і пакінуў усё як ёсць. Цяпер гэтае дабро, самая разнастайная расліннасць вольна выпірала з зямлі, прычым чамусьці не хацела расці ўгору, а імкнулася, можа ад цеснаты, слацца па зямлі, расла крыва, коса, чаплялася адно за адно, перавівалася, як ліяны, абплятала павоем шулы, вароты, веснічкі, плот, хаваючы ўсё гэта ад цікаўных людскіх вачэй, — і нарэшце злучалася над самым дахам зялёным шатром: так, што ўся хата аказвалася схаванай і з бакоў, і зверху, а Васіль Ропат жыў, як у лесе ў будане. Хіба калі добра прыгледзецца, можна было заўважыць вузенькую, у крок шырынёю сцяжынку, якая зладзеявата ныpала з вуліцы ў гэтыя шаты, ды яшчэ позна ўвосень, калі лісце ападала, ці ўвесну, калі спаўзаў снег, знянацку адкрывалася вачам праз голыя галіны нейкае фантастычнае, казачнае, нібы ў Лесавіка ці ў Бабы Ягі, жытло; быццам сашморгнулі публічна апранахі са старога чалавека, і вось стаіць ён перад усімі безабаронны, сарамлівы... Але нядоўга так было. Узімку перш шэрань, а потым снег усё бяліў, раўняў, пульхным футрам клаўся на галіны і апранаў Ропатава логавішча. Толькі дым падымаўся з коміна ды сцежка крыху цямнела на белі. А ўвесну шпарка пачынаў зелянець яго двор, і зноў усё хавалася, як і хацеў Ропат.

## II

«Хто ім тут мёдам мажа? — думаў Ропат, гледзячы на чарговую «сахалінку». — Чаго яны спаўзаюцца сюды з усяго свету? Чалавек дзе нарадзіўся, там павінен і памерці...» Яму было прыкра, горка, што ён, тутэйшы жыхар, стары чалавек, вымушаны, як злодзей, хавацца ад людзей у зарослым двары ўласнай хаты. Ён даўно пераставаў адчуваць сябе тут, у роднай вёсцы, гаспадаром. І толькі калі-небудзь са здзіўленнем перапытваў сябе: як жа яно так сталася? Калі пачалося? З якога часу вёска пачала напаўняцца, як саранчой, гэтымі прышлымі людзьмі? Яны скуплялі старыя хаты, будавалі новыя, і ўсё ім было мала, і ўсё іх большала, большала, яны распаўзаліся, нібы бружмель у Ропатавым двары, пастунова, але няўмольна выціскаючы старога Ропата з яго асяродку, а самі — па законах фізікі — запаўняючы вызваленую прастору.

Ропат бачыў у гэтых людзях адну толькі небяспеку для сябе і грэбліва называў іх адным кароткім словам: «зброд». «Зброд» дзяліўся на дзве катэгорыі. У першую ўваходзілі розныя прыблуды — мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя, пагарэльцы, бежанцы, беспрытульнікі без роду-племені, з нейкіх такіх краёў, пра існаванне якіх Ропат ніколі не чуў і нават не ведаў, што такія ёсць на свеце. Іх дапаўнялі прышлыя з блізкага горада — самая розная непатрэбшчына, чалавечае шалупінне, ні Богу свечка, ні чорту качарга. Гаспадаркі яны не вялі, жыўнасці не трымалі; запушчаныя агароды, соткі, парослыя ляснымі дрэўцамі, някошаныя паплавы — толькі трава-самасейка пад акном, тры кветкі ды дзікі куст маліннiку. Усе непапраўныя, нейкія адчайныя гультаі, яны не саромеліся свайго гультайства, а нават нібы ганарыліся ім, жылі як папала і на што давядзецца. Некаторыя зімою зніквалі, увесну зноў з'яўляліся. Улетку збіралі і здавалі

ягады, лісічкі. Карацей, чорт іх ведае, як, за што яны жылі. Можа, атрымлівалі ад дзяржавы дапамогу.

Другую частку складала мясцовая арыстакратыя — дачнікі, у асноўным адстаўныя вайскоўцы, маладыя пенсіянеры. У сваё сорак пяць яны ўжо не працавалі. Гладзілі жываты, атрымлівалі неверагодныя — і лічба такая на паперцы не змесціцца — пенсіі, прычым умудраліся адразу ў двух месцах: тут, і яшчэ недзе, дзе раней служылі. Іхнія жонкі (новая вясковая мода), маладыя бабулі, днямі гулялі па вуліцы, адной рукой штурхаючы перад сабой дзіцячую каляску, а другой — уціскаючы ў вуха мабільнік. Усе яны мелі ў горадзе кватэры, але жыць хацелі тут, а кватэры здавалі ці пакідалі дзецям. Вось гэтыя і былі тут сапраўдныя ўладары, паводзіліся, як дома. Адзін на аднаго гледзячы, нібы спаборнічаючы, яны ўпарта з вясковых хат ляпілі загарадныя катэджы. Агароды іх былі ператвораны ў вялікія парнікі, у дварах — па дзве машыны, кожны «катэдж» збоку меў спадарожнікавую талерку, каля варот на вуліцы — вазончык або клумбу з кветкамі. Траву ў дварах касілі не менш як два разы на дзень, і не косамі, а траскучымі трымерамі. Яшчэ заможнасць іх вызначалася па тым, якія былі ў іх платы і вароты, наколькі яны былі надзейныя, высокія, чыгунныя або каменныя, літыя або каваныя, металічныя або з цяжкіх драўляных брусоў, перакрыжаваных жалезнымі пласцінамі, — звычайна на гэта ішоў граб альбо прасмалены дуб. Наўскасяк ад Ропата цераз вуліцу жыў нейкі таямнічы бізнесмен, адгароджаны ад усіх, як Ропат сваімі зараснікамі, трохметровай каменнай сцяной, за якой разводзіў на продаж в'етнамскіх свінняў. Ропат ніколі не бачыў іх, не ведаў, як яны выглядаюць, але каля аўталаўкі расказвалі, што гэта проста пачвары з неверагодна моцнымі, дзіўна сашчэпленымі сківіцамі: могуць жэрці цэглу, дрэва, а калі забудзеш пакарміць — ядуць зямлю пад нагамі — «...плодя тем самым свиную чуму и прочую нечисть», — падводзіў вынік

дзед — Ропатавых гадоў, толькі ў адрозненне ад Ропата заўсёды бадзёры, жвавы, актыўны, у капелюшы, камізэльцы, у акулярах, у ваенных штанах з выцвілым кантам. Гэта быў стары мовавед, філолаг, які з маніякальнай настырлівасцю не стамляўся папраўляць у словах націскі, выяваў з беларусізмамі; калі чуў ад каго мясцовае слова, нават выпадкова прамоўленае, яго як электрычным токам біла, да шаленства даводзіла, і ён ледзь палкаю не замахваўся.

«Как-то пришло письмо, — расказваў ён з абурэннем, — орали сотки... Я испугалася, думал, переругались, а это, оказывается, пахали! Или — густка. Неужели так сложно сказать — платок? Зачем густка, причём густка?!»

Трохі далей, у старэнькай, яшчэ горшай за сахалінскую, халупе ашываліся бацька і сын Ісаевы. Аднаму было пяцьдзясят гадоў, другому дваццаць пяць. Абодва ў ваенных абносках, абодва падобныя на ваеннапалонных ці на дэзерціраў, заўсёды хадзілі разам, заглядалі ў двары. Абодва, як большасць беспрабудных п'яніцбабылёў, былі добрыя, але і дабрыня іхняя насіла нейкі бесталковы, праз меру мітуслівы характар: спачатку яны прасілі грошы, потым — выпіць, пад канец — закурыць і, не атрымаўшы ні таго, ні другога, ні трэцяга, ветліва прасілі прабачэння. Нарэшце сама далей ад Ропата, на перакрыжаванні вуліц, там, дзе звычайна спынялася аўталаўка, узвышаўся ладны двухпавярховы катэдж,_куды прыязджалі на лета Барыс з Раяю. Барыс, таксама малады ваенны пенсіянер, жартаўнік, яшчэ здалёк пабачыўшы старога Ропата, кожны раз крычаў: «Ропатавіч!» — ужо ў самім гэтым здзеклівапанібрацкім звароце знаходзячы смешнае, бо ў Ропата ж было імя — Васіль, і па-бацьку —Уладзіміравіч.

«Ропатавіч!» — крычаў Барыс, а калі дзед спыняўся, Барыс не ведаў, што казаць. Такія ў яго былі жарцікі.

Раней, калі Ропат быў маладзейшы, ён спрабаваў агрызацца, злаваў, заядаўся з імі. Ён ненавідзеў гэты

зброд панурай нянавісцю падманутага селяніна. Яму здавалася, што ўся гэтая нязваная-няпрошаная публіка нахабна і сілком адабрала ў яго вёску — тую, ранейшую, зразумелую, беларускую, поўную дзяўчат, хлопцаў, маленькіх дзяцей, дзе былі песні, каляды, вячоркі, дзе ён, Ропат, пачуваўся не чужынцам, а такім, як усе. Калі-небудзь ён выходзіў на досвітку, ці нават уночы, і ішоў, ціха ступаючы, па вуліцы, спадзеючыся ў душы на дзіва: а раптам зноў усё вярнулася, стала ранейшым? Не. Нічога падобнага. Яны, гэты зброд, не старэлі, не хварэлі, не паміралі, не правальваліся пад зямлю, і не зносіла іх ніякім ветрам нячыстая сіла. Цяпер ужо і на нянавісць не засталося моцы — усё выела праклятая старасць. І калі Ропат прыходзіў да аўталаўкі, ён ні з кім не вітаўся, нікому нічога не адказваў, ні на кога не пазіраў, стараўся хутчэй, з мінімумам словаў купіць неабходнае і пайсці прэч. Толькі звыкла, застарэла, абыякава думаў: «Зброд...»

## III

Сахалінка пачала жыць у хатцы. Ропат ужо ведаў з размоў каля аўталаўкі, што яна сапраўды прыехала з Сахаліна, там нарадзілася, пражыла ўсё жыццё, ніколі да гэтага не была ў Беларусі, і вось цяпер, на пенсіі, пад старасць, перабралася сюды дажываць. Кампанейская нават па мерках мясцовага люду, энергічная, яна хутка асвойталася, імгненна перадружылася з такімі ж, як сама. Мо дзён пяць запар спраўлялі ўлазіны. Гасцявалі ў яе Барыс з Раяю, і дзед-філолаг, і бацька з сынам Ісаевы... На закуску купілі ў бізнесмена в’етнамскага парсюка. Праведаўшы пра Ропата, Сахалінка прыходзіла яго клікаць, стукала ў дзверы. «Дзед-сусед!» Ропат не адзываўся. А раніцамі спадцішка са сваёй хованкі, як паляўнічы з засады, назіраў за ёю. З пахмелля яна нудзілася, курыла, суха, моцна кашляла, лаялася на гэты кашаль. Прывыклая да кампаніі, адзінока тулялася па двары, а то проста стаяла на адным месцы і

пазірала ўдалячынь. Вочы сінія, глядзяць не спадылба, не панура, як у тутэйшых сялян, што ад нараджэння да старасці бачаць вакол толькі лес, жывуць сярод абмежаванай дрэвамі прасторы, якая сама па сабе прыгнятае чалавека, — не, Сахалінка глядзела адкрыта, свабодна, нібы перад ёй распасціраўся родны акіян, бязмежная сіняя шырыня.

Сочачы за ёю, Ропат бачыў, што для вясковага жыцця яна абсалютна непрыдатная, гаспадыня з яе ніякая, супу яна не зварыць, бо гаршчок да печы не данясе, у лесе за корань зачэпіцца, грыб растопча, ні ягадзіны на кусце не ўбачыць, ні каларадскага жука на бульбоўніку... Нікчэмная, адно слова — «зброд». Сустракаліся яны толькі каля аўталаўкі, куды Ропат вымушаны быў прыходзіць. І там, калі бачылі іх разам, з'явілася новая тэма, ад няма чаго рабіць узнік такі розыгрыш: маўляў, трэба звесці іх, Ропата і Сахалінку, і пажаніць.

— Ну, Ропатавіч, шчасце табе на старасці падваліла! Рыбы, ікры наясіся! Сахалінскай!

Сахалінка ахвотна падыгрывала, спрабавала абдымаць яго, хапала пад руку:

— А што? Хай бы ўзяў ён мяне, ці я да яго перайшла. Усё весялей. Толькі ж дзікі надта. Хаваецца, маўчыць!

— Ён і з намі не гаворыць. Няпросты дзед, хітры. Не пускае ў хату нікога.

Здагадлівы дзед-філолаг устаўляў:

— Гордый он, не желает к нам снисходить. Считает ниже своего достоинства.

— Ды дурны ён, а не горды! Не разумее свайго шчасця — такую суседку мець!

Барыс прыводзіў такі аргумент:

— Усё адно табе, Ропатавіч, хутка паміраць, доўга не працягнеш — дык хоць перад смерцю адвядзі душу, пагуляй!

Сахалінка заступалася за яго:

— Якая гулянка — хоць дагляд будзе, вады шклянку падам, падушку падаб'ю, доктара выклічу... Галоўнае, не адзываецца, — скардзілася яна. — Маўчыць, а я баюся, ці не памёр. Вунь які стары — ніякі ўжо.

І ўся кампанія пачынала ўшчуваць Ропата:

— Ты ж праўда адзывайся, дурны дзед! Хоць голас падавай!

— Памрэш — і ніхто ведаць не будзе, ты ж адзін!

— Нам жа цябе хаваць!

— Нічога, Ропатавіч, мы яшчэ на яго памінках станцуем! — зубаскаліў Барыс.

Ропат, пакутуючы, хутчэй спяшаўся пайсці ад іх.

Гулялі ў Сахалінкі часта. Відаць, грошы ў яе вяліся, прывезла з сабою і цяпер прагульвала, дабірала тое, чаго не паспела раней. І кожны раз хадзіла клікаць Ропата. Нешта цягнула яе да яго. «Дзед-сусед!» Ён не адзвываўся. Ляжаў на сваім жалезным цвёрдым старадаўнім ложку, сам маленькі, ссохлы. У акне мільгалі буйныя і дробныя зоркі. Ад Сахалінчынай хаты перыядычна неслася: «Камбат бацяня, бацяня камбат!..» Памаўчаць роўна столькі, каб выпіць-закусіць, — і зноў: «Камбат бацяня!..»

Раптам неяк само сабой, без усялякай сувязі з песняй і гулямі, падумалася — а сапраўды, і Сахалінка, і ўсе гэтыя людзі, каго ён называе «збродам», хочаш не хочаш, а будуць хаваць яго, больш няма каму. Пахаваюць, прыйдуць сюды, у чужую ім хату, пачнуць хадзіць, мацаць усё. Хто яго пашкадуе, каму якое гора з яго смерці? Смяяцца будуць. Разглядваць фотакартку сына, які загінуў маладым, жонкі. Пачнуць памінкі ладзіць, спяваць «камбат бацяня»... А што скажуць на могілках? Ці так, моўчкі закапаюць? Ды і што яны могуць сказаць? Ён сам пра сябе нічога не ведае. Каб яму давялося выступаць на ўласных памінках — ён не змог бы. Яму, яго целу, семдзесят сем гадоў, а на самай справе — сем, і ўсё жыццё ён адчуваў сябе сямігадовым. Кажуць, старыя выдатна памятаюць мінулае

і забываюць учарашняе — глупства, адно з тых, якіх ён наслухаўся за жыццё, і некалі верыў гэтаму, думаў, як людзі кажуць, так і ёсць. Нікому не трэба верыць, пакуль на сабе не паспрабуеш. Ён якраз-такі памятае ўсе да аднаго дні апошніх гадоў, а вось з даўняга, з дзяцінства — амаль нічога, толькі агульны план, нейкія асацыяцыі. Пах першага снегу, малады салатавы гурок з жоўтым пупсікам, калючы. Маладыя гуркі калючыя, іх не трэба мыць, дастаткова выцерці аб штаны. Вось і ўсё, бадай. Можа, і пра смерць хлусяць, што яна страшная. Можа, ніякая яна не страшная. Заснуў ды і заснуў. Якая розніца, хто і што потым будзе рабіць з яго целам? Пах першага снегу ніхто не забярэ, нікуды ён не знікне, і адчуванне калючасці агурка — таксама.

## IV

Неўзабаве Сахалінцы пад хатку прывезлі трактар дроў. Ропат, адхінуўшы фіранку, прыціскаючыся да шыбіны храшчаваты нос, марна ўглядаўся, але бачыў толькі свае зараснікі. Тады не вытрымаў, выйшаў на сваё вытаптанае месца. Бацька Ісаеў увішна балгаркаю пілаваў бярвёны, сын Ісаеў, голы да пояса, з гэканнем калоў, Сахалінка адцягвала гатовыя белыя паленцы ўбок. Ропат стаіўшыся, з зайздрасцю пазіраў на талаку. Для яго самае балючае ў жыцці пытанне, самая вялікая праблема была — дровы. Можна перанесці голад, адзіноту, не есці, не спаць — старому і не хочацца; але холаду ён баяўся вельмі. Эканоміў дровы, падбіраў на дарозе кожную трэсачку. Не столькі цяжкай была іх нарыхтоўка, колькі непрыемныя клопаты: паход у лясніцтва, там прасіць, прыніжацца, «падмазваць» бутэлькамі, потым, калі ўрэшце іх прывозілі, пілавалі, калолі — надыходзіў самы для яго прыкры момант: ладзіць «пачостку», г. зн. пускаць чужых у хату, частаваць, паіць, пазіраць на іх, гаварыць з імі... Ён не скупячыся пераплачваў удвая-ўтрая, але ў хату не запрашаў ніколі. Потым доўга па адным паленцы пера-

носіў дровы пад паветку, нават кару, нават пілавінне зграбаў. І ўсё адно да вясны не хапала. Здаралася, у халодныя зімы ён сёк свае зараснікі — яны гарэлі добра, толькі шыпелі і пускалі з замерзлых ствалоў галін пухірыстую ружовую ваду. А тут — як у іх усё лёгка.

Увечары зноў была гулянка, спявалі «камбат-бацяню», прыходзілі зваць Ропата: «Дзед-сусед! — крычала Сахалінка. — Ты жывы хоць?! Ты ж не ўздумай паміраць! Што я без цябе рабіць буду!» Ён маўчаў. Потым хадзілі, тупалі вакол хаты, шморгалі з усяе сілы дзверы, стукалі ў кожную шыбку. «Адчыні, дзед!» Ён ляжаў, як мумія, не спаў. Толькі пад раніцу супакоілася вакханалія, стала неяк падазрона ціха. Ропат чуў, як пад'язджала машына — адна, і яшчэ адна. І ўдзень каля аўталаўкі, як падышоў туды Ропат, не было ажыўлення.

«Што, Ропатавіч, аўдавеў не жаніўшыся? — сказаў яму Барыс з дакорам: — Няма больш тваёй нявесты!»

Нічога не адбілася на твары Ропата. Пастаяў трохі, паслухаў, даведаўся, што Сахалінка памерла ўночы. Барыс усё абураўся, як гэта так, каб «хуткая» не дапамагла. Лаяў матам дактароў. Толькі і змаглі, што памацалі пульс і забралі ў морг. «Нічога, — пакрыўджана гаварыў Барыс, — ускрыццё пакажа!» І ўсё паўтараў, нібы апраўдваючыся перад кімсьці, нават нібыта пагражаючы камусьці: «Ускрыццё пакажа!» Ропат пастаяў, паслухаў і падаўся дамоў. Праходзячы каля хаты Сахалінкі, запаволіў хаду. Паляніца свежаколатых дроў была складзена пад самым яго плотам, акурат насупраць месца яго засады, нібы нябожчыца ведала, што за ёй сочаць, і хацела закрыць паляніцай сектар агляду. А мо наадварот; мо прадчуваючы, што не перажыве зіму і гэтыя дровы ёй не спатрэбяцца, знарок папрасіла так блізка скласці, каб яму, яе дзікаватаму дзеду-суседу, лацвей было хадзіць сюды марознай зімою, халоднай парою, карыстацца яе дрывамі і яе дабром успамінаць. Яму ўявілася сцежачка ў снезе, як

ён тупае, каб выбраць і прынесці некалькі каштоўных паленцаў.

На наступны дзень каля Сахалінчынай хаты тоўпіўся народ, стаяла машына — казённы чорны бус. Побач — вянок з чорна-чырвонымі стужкамі. З хаты даносілася гудзенне папа. На двары, як заўсёды, залішне мітусіліся Ісаевы, бацька і сын. Рая ў чорным, з заплаканымі вачыма, трымала Барыса пад руку. Барыс быў у касцюме з гальштукам. Спакойны, важны дзедфілолаг зняў капялюш. Прыхіленае да сцяны, чорнае зверху, белае ўсярэдзіне, стаяла века, прыціснуўшы нізам кусцік хрызантэмаў. Ісаеў-сын заўважыў, адсунуў века, клапатліва пачаў распраўляць пакамечаныя, паламаныя кветкі. Барыс шапнуў Ропату, ківаючы на века:

«Да сябе прымяраеш?»

Тут жа на зямлі ляжаў чорны металічны крыж з надпісам на таблічцы: «Ропот Анастасия Владимировна...» Механічна, без усялякіх эмоцый прачытаў Ропат уласнае прозвішча. Ропатаў было мо паўвёскі, і ўсе адно аднаму чужыя, ні ў якой ступені сваяцтва не знаходзіліся. Дзед-філолаг таксама разглядваў надпіс на таблічцы і нешта мармытаў — нібы ва ўнісон папу чытаў адыходную. Ропат прыслухаўся.

«Безобразие, — мармытаў дзед-філолаг. — Откуда эти кастрированные, без окончаний, фамилии? Почему не просто — Ропотова? Или у нас был... я знал — Кропотов... Вот фамилия: сочная, хрустящая и вполне грамматически правильная».

*2014*

## *ШЧАСЦЕ*

### I

Пачаць з таго, што Шаўцоў-Бузук напісаў раман. Не, ён не быў прафесійным літаратарам, адукацыю меў — будаўнічае ПТВ, і працаваў па сваёй спецыяльнасці — мулярам-бетоншчыкам чацвёртага разраду. Гадоў яму было за пяцьдзясят. Жыў ён з «падсяленнем», займаючы ў кватэры адзін пакой з трох — разам з чужымі людзьмі: муж, жонка, сынок васьмі гадоў. Так сабе сямейка, не сказаць каб спакойная. Што ж падштурхнула гэтага Шаўцова-Бузука, нашага героя, на такі авантурны, рызыкоўны, так і хочацца сказаць: непрыстойны крок — напісаць раман? Можа, жаданне пахваліцца перад жонкаю, ці палюбоўніцай, даказаць, што ён не толькі цэглу ўмее класці і раствор замешваць?

Ды не, не было ў яго ні палюбоўніцы, ні жонкі. Палюбоўніцы не было, бо Шаўцоў-Бузук, набыўшы за свой век хіба толькі прастату памерам з невялікую цыбуліну, ужо крыху падзабыў, як такая справа робіцца. А з жонкаю яны даўно развяліся, нават усе аліменты акуратна выплачаны, ён можа паказаць стос квітанцыяў. Чаму развяліся? Звычайна Шаўцоў-Бузук тлумачыў людзям, усім, хто цікавіўся, што кватэрнае пытанне вінавата, яно падвяло. І праўда, жыць «з падсяленнем» горш за інтэрнат, за камуналку. Але ў глыбіні душы ён здагадваўся, што жонка кінула яго, бо ён элементарна нецікавы. Не кампанейскі, не зух, не гумарны. Як жыць з такім? А з іншага боку — з цікавымі, гумарнымі хіба не разводзяцца? Нібыта

жыве сям'я, шчаслівая, маладая — на, трах-бах, ужо яны разам не жывуць. Увогуле, разбірацца ў прычынах разводу, не важна, свайго ці чужога, — дакладна канцоў не знойдзеш. Развод двух людзей — адна з тых вечных загадак, адказ на якую пакуль не ў сілах даць абмежаваны чалавечы розум; гэта метафізіка кшталту: ці ёсць Бог? што з'явілася раней: дух ці матэрыя? ці існуе жыццё пасля смерці? і г. д. — словам, пустыя, без адказаў пытанні.

Дык тады што? Што прымусіла чалавека пайсці на такое страхоцце — узяць і ні з таго ні з сяго напісаць раман? Прага славы? Захацелася выступленняў, вядомасці перад калегамі-мулярамі? Грошай, урэшце? Не, і яшчэ раз не. З адчаю, ад безвыходнасці — вось адказ. Гэта амаль як рукі на сябе налажыць. Так лезуць у пятлю, кідаюцца ў палонку з галавою, уваходзяць у чорны запой... Бяда, гора, нэндза, поўная нявыкрутка прымусілі чалавека ўзяцца за дурную справу — напісаць раман!

## II

Трэба аддаць Шаўцову-Бузуку належнае — трымаўся, цярпеў ён да апошняга. Пакуль дазвалялі абставіны і здароўе, механічна, стуліўшыся, цягаўся на сваю будоўлю — у кожную пару года, у любое надвор'е, з васьмі раніцы да пяці вечара, у шэсць вяртаўся, ціха прашмыгваў у свой пакойчык, увесь час трымаючы вушы натапыранымі, ловячы зручны момант, каб праслізнуць на кухню, у прыбіральню ці ў ванны пакой, стараўся жыць, як мыш, каб менш трапляцца на чужыя вочы, баючыся дыхнуць лішні раз. Хаця не такія ўжо монстры былі яго суседзі. Звычайныя людзі, можа, нават, больш добрыя, чым кепскія. Асабліва гаспадыня, сімпатычная Светка. Неяк, калі ён быў захварэў, нават зварыла яму курыны булён. Віталася з ім, пытала, ці не трэба чаго. Працавала яна недзе пры школе, ці то прыбіральшчыцай, ці ў сталоўцы, ці

настаўніцай, ці мо школьным псіхолагам, а мо нават дырэктарам школы — Шаўцоў-Бузук не распытваў: школа ды й школа. А вось яе мужа Ігара, лічылася — гаспадара, ён стараўся пазбягаць. Ігар ніколі не прамінаў буркнуць:

— Зноў ты блытаешся пад нагамі? Жыцця ад цябе няма...

Гэты быў на службе ў ведамаснай ахове. А можа, проста вартаўніком на аўтастаянцы. Ці звычайным вышыбалам. Карацей, прафесіі што ў яго, што ў ягонай жонкі былі таямнічымі. Ігар любіў гаварыць прымаўкамі, і ўсе на адзін капыл — са свіннямі звязанымі. «Свіння гразі знойдзе», «пасадзі за стол — я і ногі на стол», «не даў Бог свінні рогі», «кожная свіння сваё карыта хваліць», «нарэзаўся, як свіння брагі», «ні вуха, ні рыла». Пры жаданні гэты Ігар, канечне, лёгка б вытурыў свайго ціхоню-суседа, ды проста гаркнуў бы: «Збірай манаткі і вымятайся!» — і Шаўцоў-Бузук пакорліва сабраўся б і пайшоў. Але тут была іншая сітуацыя — падсяленне, наадварот, гэта яны, сам Ігар з сям'ёй вось-вось павінны былі перабрацца ў новую кватэру, а Шаўцову-Бузуку заставалася гэтая, у сэнсе, заставалася чакаць, каго яму падселяць.

Ігар казаў:

— Мне ж не выгадна цябе выганяць. Выгані цябе, дык тваё месца зойме сям'я з дзецьмі. Так што жыві. Свіння, і тая выгоды з усяго шукае.

Сынок іхні, Іллючок, дасягнуў узросту шкадлівасці, знаходзіўся на стадыі ператварэння ў хулігана — ужо ваўсю распісваў з балончыкаў сцены пад'езда, драпаў ліфт або падпальваў кнопкі, якія абазначалі нумары паверхаў.

Словам, сям'я як сям'я. Маладыя, здаровыя, прыгожыя, машына, дача, кватэра ўласная вось-вось будзе. Што яшчэ трэба ў жыцці? Нават Ігар, у прынцыпе, таксама нядрэнны чалавек, калі не п'яны. А вось калі паддасць, тады ў кватэры пачынаўся кашмар. Невы-

казнай пакутаю было гэта і для Светы, і для малога Іллюка, і для Шаўцова-Бузука. Пачыналася з таго, што Ігар настойліва зваў суседа да сябе ў пакой у госці. Шаўцоў-Бузук ішоў, як баран пад абух. Ігар абдымаў яго, хваліў — няўмела, фальшыва, падлізліва, сыпаў кампліменты: маўляў, які ён, Шаўцоў-Бузук, спрытняка — варта толькі Ігару за парог, як Шаўцоў-Бузук — да Светкі. «А то я не ведаю, чым вы тут без мяне займаецеся, як свінні ў загарадцы...» І паказваў кулак з дзіцячую галаву памерам. «У пятак! Адзін удар!»

Канчалася тым, што Света не вытрымлівала, заядалася, лезла на ражон. Ёй пападала. Малы Іллюк уцякаў на калідор. Слабасільны ў параўнанні з Ігарам Шаўцоў-Бузук вымушаны быў заступацца і таксама атрымліваў сваю порцыю. З-за гэтага — з-за таго, што ён перыядычна з'яўляўся на працы з сінякамі, у яго была кепская рэпутацыя, і ён застыў на 4-м разрадзе, хаця даўно мог бы стаць брыгадзірам, а то і памочнікам прараба. Хто ж паверыць, што фінгалаў табе наставілі, бо заступаўся за чужую маладую жанчыну? — цяпер такога рыцарства не бывае. На шчасце, піў Ігар не часта — не больш як адзін-два разы ў месяц, а калі падшываўся ці кадзіраваўся, тады Света харашэла, весялела, маладзела, Іллючок менш хуліганіў, а Шаўцоў-Бузук мог спакойна аддацца свайму хобі — чытанню.

Некалі чытаў ён папяровыя кнігі, але пакойчык маленькі, папяровая кніга з яе габарытамі стала раскошаю, пачаў чытаць з камп'ютара, з планшэтніка, затым, калі пасадзіў вочы, проста ляжаў на спіне і праз навушнікі слухаў запампаваныя ў *reader* аўдыякнігі. Гэта было сама прыемна: ты ляжыш, як пан, а чужы голас з усімі інтанацыямі паслухмяна чытае табе тэкст. Чытаў ці слухаў Шаўцоў-Бузук не сучасныя кнігі, не любіў ён іх, бог з імі, з іх дыялогавай цягамоцінай; надта ж часта героі там перапытвалі адно ў аднога: «Можно у вас спросить?» — «А о чем бы вы хотели

спросить?» — «Я не ошибаюсь? вас зовут...» — «Нет, вы не ошиблись. Так я вас слушаю». — «Я бы вот чем хотел поинтересоваться...» — «А разрешите в свою очередь узнать...» І так — старонкамі, раздзеламі! Не, як хочаце, а такая літаратура Шаўцову-Бузуку не лягала на душу. Ён нават падсмейваўся з гэтых сучасных модных раманчыкаў, называючы іх «дыялогі глухога са сляпым». Ён любіў старыя, правераныя часам кнігі — як настоенае віно, кожны глыток якога напаўняе розум мудрасцю, а душу гармоніяй. Там пісьменнікі пісалі так, як бы вучылі жыць.

Парушаў гармонію ўсё той жа Ігар. Як малады бык, якому энергіі няма куды дзець, ён усё шнырыў па кватэры, нешта выглядваў, прыкідваў, пасвістваў. А то надумваўся і прыносіў у пакой да суседа кучу старога абутку, самага рознага хлам’я.

— На, паглядзі, усё роўна табе рабіць няма чаго.

Шаўцоў-Бузук сто разоў яму тлумачыў, што працуе на будоўлі, што нічога не петрыць у рамонце абутку. Але Ігарок прапускаў гэта міма вушэй. Ён арыентаваўся па прозвішчы: раз Шаўцоў — значыць, як мінімум, павінен разбірацца ў такой справе. Пэўная логіка тут была. Сапраўды, прозвішча многае сведчыць пра чалавека, і нават можа прама ці ўскосна ўплываць на прафесію. Кухарчук часта працуе ў сталовай або ў рэстаране, Пісьмянок піша вершы, хірург Партны без шкадавання крамсае і зашывае чалавечую скуру... На працы ў Шаўцова-Бузука былі Цесля, Мулярчык, Сталяровіч; быў Казарэзаў, які па-свойму таксама апраўдваў сваё прозвішча — працаваў рэвізорам-інспектарам будтрэста. Сам Ігар прозвішча меў Салдатовіч; ён і служыў — прынамсі, лічыўся на нейкай службе. Так што, можа быць, каб Шаўцоў-Бузук быў па прозвішчы Рыбакоўскі ці Карасевіч, дык Ігар са спакойнай душой насіў бы яму ладзіць блёсны, спінінгі, катушкі, ці прасіў бы якіх-небудзь спецыфічных рыбалоўных парадаў. А можа, прыносіў ён сваё стаптанае хлам’ё,

— З Масквы засталося. Бачу, як табе кепска... Не ясі нічога.

Я дастаў шклянкі.

– Што ты думаеш пра ўсё гэта? — як і Максімяну ў Маскве, спытаў Калоеў.

Я пацiснуў плячыма, не разумеючы, што ён мае на ўвазе.

– Ты заўважыў, якія карціны? Які дух, якія пачуцці яны выклікаюць, якое значэнне яны, іхнія багі, надаюць палавому акту? Ніякай сакральнасці, ніякага інтыму, усё будзённа... А потым здзіўляемся, адкуль войны, рэвалюцыі, чаму гінулі і яшчэ будуць гінуць мільёны, мільярды людзей! Ну, не дзеля ж такога абсурду, як ідэалы або вера!

– А чаму?

– Я скажу. У аснове любой вайны, рэвалюцыі, барацьбы — змаганне мужчыны з жанчынай. Паміж імі поўная непрымірымасць, люты антаганізм. На зямлі толькі два класы, два лагеры, дзве партыі — мужчыны і жанчыны. Немагчыма прыдумаць дзве большыя непадобнасці, дзве большыя супрацьлегласці, вымушаныя ўжывацца на адным шарыку!

Я піў гарэлку, закусваў чорным хлебам з памідорамі, якія перад тым, як адкусіць, мачаў у соль, а Калоеў, захапіўшыся, развіваў сваю тэорыю. Потым я даведаўся, што ён разведзены, а гэта для каўказца рэдкасць, можа, адсюль і ішла яго апантанасць гэтай тэмай.

– Калі ўдумацца, жанчыны нават як бы і не людзі, а нейкія зусім іншыя, асаблівыя істоты, прынесеныя з Космасу, што жывуць побач з людзьмі. Яны лепш за мужчын арганізаваныя, лепш прыстасаваныя, бо ўмеюць прыкідвацца слабымі, а слабасць — самая моцная зброя. Таму яны перамагаюць. Некалі вялікі паэт сказаў — крытыкуйце мужчын, сварыцеся на іх, злуйцеся — нікому ў галаву не прыйдзе заступіцца,

абараніць, пашкадаваць іх; але толькі дакраніцеся да слабага полу — усе жанчыны паўстануць на вас аднадушна, яны складаюць адзін народ, адну секту.

Усё жыццё, працягваў Калоеў, ад заснавання свету, як толькі ўзніклі мужчына і жанчына, яны баяцца, не разумеюць і ненавідзяць адно аднаго; адсюль і цяга іх адно да аднаго. Называецца гэта «працягам роду», «каханнем», гэта значыць палавымі актамі, а любы палавы акт — праява насілля, нянавісці; мала што можа быць больш агіднага, жывёльнага, чым перакошаны твар у час экстазу; займацца казаннем смела можна перайначыць на «займацца нянавісцю».

Я слухаў і не слухаў — больш прыслухоўваўся да свайго жывата, і з радасцю адчуваў, што гарэлка памагае; нават спаць захацелася; і я з падзякай, з любоўю паглядваў на ўзрушанага Аслана, і згаджаўся з ім у думках — не жанчына, праўда ж, а ён, мужчына, адчуў, што мне кепска і прыйшоў памагчы. Спалася добра, але на раніцу, варта было толькі злавіць носам пах гэтага курдзючнага тлушчу, усё ўва мне перавярнулася. Любая ежа тхне авечым лоем. Я перастаў есці і калі праходзіў каля рэстарана, стараўся не дыхаць. Так прайшло пяць дзён голаду і бяссонніцы. Толькі кава і цыгарэты. Але на дзіва трымаўся. Тым часам усё рабілі для нас у плане азнаямлення з прыродай і побытам. Раней думалі, Манголія — суцэльны стэп. Даведаліся, што ў Манголіі, як у Грэцыі, ёсць усё: рэкі і азёры, стэп і горы, густыя лясы і пустыні... Чамусьці вельмі цяжка было выбірацца з горада, трэба куча штэмпеляў, дазволаў; тое самае вяртацца назад. Ездзілі на аўтобусе «пазіку». Вазілі на самую паўнаводную раку Манголіі — Селенгу. Яна нараджаецца ў гарах, мае даўжыню толькі ў межах Манголіі 600 км, потым цячэ па Бурацііі ўпадае ў Байкал. Усе рэкі каламутныя, у гліністa-пясчаных берагах, таму маюць цёмнашэры колер, але самі — хуткія, імклівыя. На берагах

сям-там можна пабачыць рускіх рыбакоў-барадачоў у хімкамбінезонах. У нас у аўтобусе былі вуды, мы таксама паспрабавалі палавіць — на звычайных konі-каў, якія пстрыкалі пад нагамі на беразе. Я не паспеў закінуць — паклёўка, рывок, і вось б'ецца ў траве стронга-фарэліна! Побач у Максімяну — у два разы большая! Але ніхто не радаваўся, і дзе дзяваць гэтыя рыбіны, не ведалі; так і выпусцілі назад у раку.

Пабылі ў юрце. Жыве інтэлігентная маладая сям'я, настаўнікі, перабраліся з Улан-Батара на прыроду — хоць на лета. Апранутыя ў нацыянальныя строі, на нагах скураныя мяккія боты з загнутымі насамі — «каб траву не пашкодзіць, зямлю не параніць», патлумачыў Чайдог (а я думаў, каб у стрэмя спрытней упіхнуць); зрэшты, сапраўды калупаць зямлю тут лічыцца грахом, агародаў не ўбачыш: цыбулю, часнок, бульбу, капусту, моркву, рэпу — усё купляюць і не ядуць сырымі, а толькі прыгатаванымі на пары. Спіртное гоняць з кабылячага малака, называецца архі — малочны самагон, нібыта градусаў 10 атрымліваецца, як алей, як машыннае масла, такое ж на смак. Калі каля юрты бегаюць дзеці, хлопчык з дзяўчынкаю, абсалютна голыя (пацвярджаючы сказаную ў самалёце прымаўку Расціслава Смелага), затое ў адрозненне ад бацькоў гавораць не па-руску і не па-мангольску, а па-французску.

– Ну і правільна, навошта чалавеку трусы? — так здаравей, — казаў Максімяну. — Абы французскую мову ведалі.

Пад вечар спыніліся перакусіць у турыстычным кэмпінгу, вельмі прыгожая мясцінка, на лясной паляне, за лесам — сінія горы пад белымі шапкамі. У ляску, куды адлучыліся па малой патрэбе, знайшлі грыб, падобны на масляка, толькі не карычневы зверху, а белы — альбінос.

– Глядзі, якія ў іх маслякі, — сказаў я Расціславу і лёгка злупіў скурку з грыба.

– Тут не можа быць нашых грыбоў! Гэта *лісавіннік*. Ну, канечне! Давай спрачацца!

– Такога слова не ведаю.

Расціслаў нечакана ўзгарэўся, адчапіцца ад яго было не так проста. Уцягнулі Чайдога, заклікалі ў сведкі, але ён не цікавіўся грыбамі, не ведаў нават мангольскай назвы. Калоеў і Максімяну — не лясныя людзі. А Расціслаў не ўнімаўся. «Давай спрачацца на ўсе грошы, якія з табой!» У мяне было 170 тугрыкаў, а ўсіх на 14 дзён — 400, значыць, палавіна, ды яшчэ ўлічваючы, што мы пяць дзён пражылі — большая палавіна.

– А я, калі прайграю, табе ў гатэлі аддам! Пры сведках! Ну што? Баішся?

Вучылі мяне з дзяцінства — не спрачайся ніколі ні з кім, не гуляй у азартныя гульні. Чорт за мяне працягнуў маю руку.

– Спрачаемся! — каб толькі не бачыць гэтага ненармальнага ўзбуджэння, каб толькі ён адчапіўся ад душы. Дзве думкі адначасова прамільгнулі: першая — навошта мне грошы, усё роўна есці не магу, на цыгарэты хопіць, і другая — не возьме ён.

Зацікаўленыя нашым шумам, ад задніх дзвярэй кавярні падышлі два манголы, пагаварылі па-мангольску з Чайдогам. Расціслаў прыліп да іх: што гэта за грыб? Манголы не ведалі. «Масляк?» — «Масляк», — пацвердзіў адзін. «Ці лісавіннік?» — «Лісавіннік», — крышку больш упэўнена паўтарыў другі. І гэтай мікраскапічнай долі ўпэўненасці аказалася дастаткова, каб мае грошы спрытна апынуліся перш у далоні Расціслава, а далей схаваліся ў партманеце і ўрэшце ў кішэні яго джынсаў.

Адзін з рабочых узяў грыб:

– Ты за гэта заплаціў 170 тугрыкаў?

Усім было няёмка, акрамя Расціслава. Ён паспакайнеў, палагоднеў. Паляпаў мяне па плячы, прыабняў:

– Вось так. Мяне ніхто ў жыцці ніколі ў спрэчках не пераможа. Есаул, есаул, что ж ты бросил коня...

Калі ўжо зусім позна было, завярнулі да яшчэ адной юрты. Там жылі толькі мужчыны, чалавек сем. Усе паміж сабой гавораць толькі па-руску. Ні да таго, ні пасля я ў жыцці не бачыў больш ветлівых, добрых, ціхмяных людзей. Пакаталі нас па чарзе на высокім кані, прычым абавязкова ішоў збоку мужчына, трымаючы каня за вуздзечку. Трохі пагаварылі.

– А, Беларусь! — узрадаваўся мужчына. — Ніл Гілевіч, — прамовіў ён слова-пароль. — Я быў у Беларусі, у Оршы...

Беларусь, Орша, Ніл Гілевіч... І дзе я чую гэтыя словы — пасярод дзікага мангольскага стэпу, у чорта за светам! Мы вырашылі, што гэта якіясь вучоныя-этнографы, эколагі, набіраюцца практыкі сярод роднай прыроды...

Сонца зусім схавалася на далёкім захадзе.

– Давайце тут заначуем.

Чайдог ухіліста, хаваючы вочы, адмовіўся: «Не, ні ў якім разе, паедзем...» Па дарозе растлумачыў, што мы былі ў гасцях у рэцыдывістаў. Серыйныя забойцы, канібалізм, скаталожства...

– На перавыхаванні тут. Чаго ім у турме сядзець? І карысць ад іх, і яны задаволеныя...

– А калі разбягуцца?

– Відаць, давяраюць ім.

Нават гэты эпізод нікога не здзівіў і не рассмяшыў. Мы былі стомленыя, брудныя, цвярозыя, хацелі спаць. Мы ўжо бачылі, ведалі, што ўсё тут багатае, экзатычнае, усё ёсць — акрамя яснасці, правільнасці, парадку, арганізацыі гэтага ўсяго багацця, да чаго інтуітыўна цягнецца еўрапеец. Мы прыехалі сюды поўныя сіл, энергіі, самазадаволеныя, упэўненыя, пыхлівыя — кшталту цывілізаваныя людзі, што ашчаслівілі сваім наведваннем Богам забытую кітайска-рускую калонію.

Цяпер, калі не прайшло яшчэ і тыдня, мы разумелі, што Манголія перамагла нас. Мы аказаліся не гатовыя да яе нават у якасці турыстаў. Яе стыхія, азіятчына, першабытнасць, разнастайнасць, бяскрайняя вольніца — усё гэта хутка абламала нас, прыцішыла; прыгнечаныя, паніклыя, стомленыя, мы адчувалі, і ўголас казалі, што толькі дзве радасці ёсць у Манголіі: першая — калі сюды патрапляеш, і другая — калі з'язджаеш. Ва Улан-Батар вярнуліся каля гадзіны ночы, знясіленыя, разбэрсаныя і галодныя. Тут нас чакаў новы ўдар — рэстаран пасля 24 абслугоўвае толькі за даляры. Разам з намі апынулася каля дзвярэй нейкая амерыканка, таксама вярнулася з позняй вандроўкі і, мусіць, адчувала тое самае, што і мы. Спыталася ў Чайдога, у чым справа. Ён патлумачыў.

– Я запрашаю вас усіх, — сказала амерыканка.

– Пайшлі! — загарэўся Расціслаў.

Заманліва было, але ж у нас гонар, а яшчэ больш — сорам. Я ўжо распранаўся, калі ў дзверы пастукаў Чайдог. У нумары Калоева ўсе былі ў зборы, у тым ліку і амерыканка з вялікай пляшкай джына. Стаяў ядлаўцовы пах. Амерыканка пажылая, з добрымі сінімі вачыма, мала гаворыць, многа слухае. Спачатку гаварылі ўсе адначасова і хутка, Чайдог ледзь паспяваў перакладаць. Калоеў даказваў пра абсурднасць любой барацьбы, пакуль кіруе яго вялікасць інстынкт (я ведаў, што ён мае на ўвазе: глабальную вялікую вайну двух палоў, якія вымушаны ўжывацца на адной Зямлі). Расціслаў Смелы горача пераконваў, што Манголіі з такой багатай прыродай і з такімі рэсурсамі трэба «рваць з Расіяй».

– А самім шарыкі падаваць для гольфа? — насмешліва адказваў Чайдог.

– Усё правільна, — падтрымліваў невядома каго Максімяну.

Амерыканка ўсміхалася, слухала ўважліва, згодна ківала і адказвала: «Уес». Потым усе супакоіліся,

сядзелі моўчкі: старая амерыканка, беларус, мангол, асецін, малдаванін і рускі — і па чарзе пілі джын з рыльца, трымаючы аберуч цяжкую двухлітровую чатырохгранную бутэльку. Наступала шостая раніца нашага знаходжання ў Манголіі. Заставалася яшчэ восем.

*2015*

## *ПТАШНІКАЎ*

– Я тройчы сталічны чалавек, — казаў ён. — Нарадзіўся ў Плешчаніцах, вучыўся ў Лагойску, жыву ў Мінску; а так як у Беларусі тры сталіцы: Мінск, Лагойск і Плешчаніцы, то...

Да вайны ён паспеў скончыць тры класы пачатковай школы. Потым — вайна, блакада, хаванне ад немцаў па лясах і балотах, голад, холад (у 2002 годзе я пачуў ад Ніла Гілевіча, што «Пташнікаў амаль усё жыццё з адной ныркай», — несумненна, вынік таго ліхалецця). Далей біяграфія даволі роўная: з сярэбраным медалём закончыў школу, журфак, рэдактарская праца.

Чым ён цікавіўся, акрамя літаратуры і прыроды? Наколькі памятаю, ён не быў ні рыбаком, ні грыбовікам, ні паляўнічым; праўда, яго неаднойчы бачылі на чыгуначным вакзале ў дажджавіку і з заплечнікам, але, хутчэй за ўсё, ён проста ездзіў пабыць сам-насам з любімай прыродай. «Як распавядаў празаік Анатоль Казлоў, — піша Ц. Чарнякевіч, — Пташнікаў раіў “нэафітам”, якія неслі ў “Полымя” свае першыя творы, пачынаць з апісальнай тэхнікі: сядаць у лесе ці ў лузе ці папросту на траву ля дома і апісваць тое, што бачыш, — як мага больш падрабязна й дакладна фіксаваць найменшыя зрухі быцця».

Не любіў кампаній і чарак. Абыякавы быў да спорту, хоць у маладосці і спрабаваў пісаць на гэтую тэму (у адзіным «спартыўным» творы, «Прахадная пешка», пра шахматы, адразу ж, у першым сказе дапусціў ляп: герой ратуецца ад шаху — ракіроўкай). Раз стаяў, задуменны, каля акна ў рэдакцыі, барабаніў пальцамі па папцы з чужымі рукапісамі.

– Пра што вы думаеце, Іван Мікалаевіч?

– Пра Анжаліку Варум. Якое дзіўнае прозвішча — Чаму. І не такая яна ўжо таленавітая, як з ёю носяцца.

– Ува мне памёр вялікі нерэалізаваны вандроўнік, — казаў другі раз. — Так я люблю дарогу, новыя мясціны — і нідзе не быў! Адзін раз у жыцці ездзіў за мяжу, у Беласток, на два тыдні, потым раман хацеў пра гэта пісаць...

Уладзімір Дамашэвіч у рамане «Камень з гары» вывеў яго пад прозвішчам Драздоў. «Здаецца, не чытаеш, а бачыш малюнак — так ён мог перадаць прыроду. Часам гэтым сваім умельствам Драздоў злоўжываў, і прырода паглынала чалавека, як вялікі лес. Яна падавалася буйным планам, першародная ў сваім харастве, а чалавек раствараўся ў ёй, станавіўся мізэрны, маленькі, як мурашка».

Я б яшчэ дадаў — прырода ў яго творах часта не толькі паглынае герояў, а ўвогуле як бы існуе асобна ад іх. Такое адчуванне, што яму зусім не важна, чыімі вачыма яе апісваць: партызана ці паліцая, падпяразанага пілою леспрамгасаўца, вясковага шафёра ў мазутнай фуфайцы, капітана энкавэдэ Дувалава ці мінскага летуценнага паэта.

Ён не заўсёды паспявае за сваімі героямі. Яны як бы ідуць сваёй дарогай, а аўтар — сваёй: то збоку, то ззаду, увесь час затрымліваючыся, каб апісаць яшчэ іншымі фарбамі пейзаж, кветку або птушку. У яго занадта роўны, запаволены і ад таго крыху аднастайны стыль, які ўмоўна можна назваць «рэтраспектыўным» — гэта калі героі знаходзяцца ў цяперашнім часе, а падзеі адбываюцца ў мінулым (адзін з любімых яго прыёмаў, напрыклад, такі: «Падае снег. Падаў ён і тады, калі...»). Менавіта таму нялёгка чытаць яго вялікія раманы і доўгія аповесці. Яны здольны стаміць нават самага цярплівага чытача, асабліва сучаснага.

Затое там, дзе героі і прырода па шчаслівай выпадковасці супадаюць, атрымліваюцца такія рэчы, як «Лонва», — на маю думку, самая лепшая яго аповесць. Галоўны герой — таксатар, чалавек, праца якога звязана з лесам, з прыродай, таму любыя адступленні на гэтую тэму натуральныя і дарэчныя.

«Лонва» нечым нагадвае «Людзей на балоце». А можа, і не нечым, а пісалася пад яўным уплывам вялікага рамана. «Людзі на балоце» надрукаваны ў «Полымі» ў 1961 годзе, «Лонва» — у тым жа «Полымі» ў 1964-м, гераіню «Лонвы» Жэньку дражняць Чарнушка, нават пачаткі падобныя: «Хаты стаялі на востраве» — у Мележа; «Яны доўга стаялі на шашы» — у Пташнікава.

Тут ён цалкам у сваёй стыхіі. Жнівень, вечар, вясковы двор, туман, камарыны звон, вогнік, каля якога двое, на цаглінках у чыгунчыку варыцца бульба, і плаўна цячэ апавяданне — не так і важна, пра што.

«Агонь гарэў недалёка ад студні з новым сасновым зрубам. Студню правілі, відаць, зусім нядаўна. На двары пахла яшчэ смалой, ля зруба не абтаптаўся жвір — яго было высока насыпана, і ён разносіўся нагамі па ўсім двары».

«Разраслася на ўвесь двор адна шапка сланечніку. Сланечнік вырас на тоўстай назе-дудцы, з шырокім цёмным лісцем і вялікай шапкай, як рэшатам-падсіткам, што, даўно парванае, вісела ў Грасыльды ў сенечках».

«Недзе ў гародчыку, блізка ад Завішнюка, покнула на зямлю груша-дзічка. Ён абаперся на вароты і глядзеў на рабіну, што нагіналася над самым плотам ад вуліцы. Ягады ў вячэрняй цемнаце былі яшчэ чырвоныя. Хацелася дастаць іх рукой і пакратаць».

«Месяц ужо выплыў з-за хаты і павіс за вёскай, нізка, над самай ракой. Жаўтаваты, надкушаны, у смузе, — ён, здавалася, быў мяккі і сумны, усё роўна што добрай душы чалавек».

«Ад лесу відаць была добра ўся Лонва — стаяла на шырокіх і цвёрдых тут грудзях зямлі; здавалася, яе нішто не можа зрушыць з пагор'я і сапхнуць да ракі, дзе ніжэй, дзе лог і балота; здавалася, яна тут прырасла навек да зямлі, і зямля без яе — не зямля, і лес без яе — не лес».

Яго апісанні прыроды можна цытаваць, і захапляцца імі, да бясконцасці.

Яшчэ «Лонва» — адзін з лепшых у беларускай літаратуры твораў пра каханне, хаця там на 250 старонках няма ніводнага пацалунка.

Галоўнаму герою, таксатару Завішняку, 25 гадоў, яго практыкантцы і патаемнай каханай, той самай Жэньцы-Чарнушцы — максімум 16: першы курс тэхнікума пасля сямігодкі.

«Ціхая-ціхая — ні слова, і сарамлівая — вачэй не падымае, Жэнька яму, можа, толькі і даставала да пляча, але яна была зграбная і стройная; калі хадзіла па пакоі — востра і чотка тупала абцасікамі: тук-тук, тук-тук».

«Яна яшчэ дзіця, хоць і студэнтка, дзіця, і недзе зусім лёгенькая...»

Завішняк кватаруе ў адзінокай Грасыльды, Жэнька з сакурсніцай Светай — у суседняй хаце, праз вуліцу. Да таго ж удзень яны ўвесь час разам — мераюць лес на дзялянкі. І гэтая іх блізкасць трымае сюжэт, напаўняе аповесць шчымлівым, празрыстым, жнівеньскім святлом.

«Узяць ды ўскудлачыць яе густыя валасы, якія яна расчэсвае ў лесе, кожны раз, калі можна. Яна любіць іх. Але яна не ведае, што яны пахнуць...».

«Калі яна нагінаецца блізка да яго, Завішнюка, і глядзіць у тэадаліт, — ён чуе, як яны пахнуць, густа і даўка — аж кружыцца тады галава, калі ён дыхае; пахнуць усімі сухімі травамі, усім мсціжаўскім разнатраўем: васількамі, пшанічным коласам, сенам-травой,

мятай, палыном. Ён, Завішнюк, прывык да гэтага паху. Ён запомніў яго».

Неяк пад настрой я цытаваў яму цэлыя кавалкі аповесці, называў імёны і прозвішчы: Чаркашына, Грасыльду, Парыпана, Акцызніка... Іван Мікалаевіч слухаў — не слухаў, а плыў — з асалодаю, з падзякаю, з адабрэннем кожнага слова, нібы гэта не ён напісаў, а слухае чыёсь чужое, усклікваў:

– Так, так... Быў такі! Ох, цікавы чалавек!.. — паціскаў мне плячо, нават адвярнуўся і нібы няўзнак выцер вочы.

Я сказаў, што малым быў закаханы ў яго гераіню, толькі не ў ідэйную, строгую і чыстую Жэньку-Чарнушку, а ў маральна няўстойлівую, даступную бялявую Светку.

– О-о, — адабраючы мой густ, ажывіўся ён яшчэ больш, вочы заззялі; ён нібы ўспомніў пра свавольніцу Светку нешта такое, аб чым не напісаў. — О-о, Светка!..

«Палымянскі» кабінет выходзіў на шумную вуліцу Захарава. Ад метро ў лінгвістычны ўніверсітэт і назад ішлі дзяўчаты, мільгалі твары і тварыкі, ногі і ножкі. Іван Мікалаевіч глядзеў, потым адрываўся ад акна, крактаў і казаў па-руску ўсяго адно слова:

– Весьма!

Да 1990 года я ведаў яго толькі па фотаздымках. Адкрыты лоб, прыгожыя вочы і нечакана тонкія вусны — рэдкасць для вясковага чалавека, прыкмета ганарыстасці, нават пагарды (чамусьці вуснам-губам увогуле надаецца вялікае значэнне ў нашай літаратуры; можна прыгадаць героя Коласа з «ласінымі губамі», героя Караткевіча з «адстаўленай скавароднікам ніжняй губой», вясельную прыпеўку ў Мележа — «выходзь, свякруха губата, прыехала нявестка багата!..»).

Вясной 1990 года, калі мяне яшчэ студэнтам узялі на працу ў «Полымя» і я яго ўпершыню пабачыў,

яму было 58 гадоў, і вусны ўжо былі не такія, як на фота, а звычайныя. Байкавая кашуля ў сінія клеткі (сам ён казаў і пісаў толькі «рубашка»), запраўленая ў штаны пад вузкую, зусім вясковую папружку. Сандалі. Белая кепка. Высокага росту, мажны, нетаропкі, знешне крыху нагадвае Янку Брыля. Характарам яны таксама былі падобныя: насцярожанасць спачатку і раскрыццё аж да абдымкаў — потым. Абодвух іх я крыху пабойваўся, ведаючы гэты тып разумных, назіральных, з'едлівых вясковых дзядзькаў. Цяпер, калі сам у іхніх гадах, разумею, што яны так проста абараняліся. Ранімыя, малапрактычныя, сарамлівыя (дарэчы, апошняе ўласціва не толькі Брылю і Пташнікаву, а ўсім без выключэння беларускім пісьменнікам той пары, бо, зноў-такі па вясковых мерках, што за занятак для здаровага мужчыны — пісаць на паперы літары?).

– Сумна? А я вось трыццаць гадоў тут! Ай-я-яй. Такая вясна на вуліцы, такое жыццё за акном. Уяўляю, як маладому чалавеку тут сядзець, — і, узяўшы лірычны тон: — Эх, мне б вашыя гады... Пайшоў бы пехам куды вочы глядзяць, па вёсках...

– Колькі ты пішаш? Адзін сказ у дзень? А то і ў тыдзень? Няма чаго рабіць у літаратуры. Трэба пісаць толькі раніцаю і не менш чым 13–14 старонак за раз, каб за два выхадныя атрымліваўся аркуш, 24 старонкі.

– Прынясі што-небудзь сваё, цікава, як цяпер маладыя пішуць.

Я прынёс недапрацаваную, амаль чарнавік, аповесць «Сінія кветкі».

Іван Мікалаевіч сумленна, з алоўкам, прачытаў дзве старонкі. Узяў чысты аркуш паперы і паклаў побач на стол.

– Не, так не пойдзе. Уяві, што мы блізкія сябры. Сядзім, бутэлька паміж намі, і ты мне расказваеш. Што ты хочаш мне сказаць?

– Ну, хачу сказаць, што... герой з самай раніцы, пакуль мыўся, чысціў зубы, снедаў, не мог адагнаць ад сябе ўспаміну — як ён некалі, маленькі, уцякаў па свежай пакошы ад чмяля і наляцеў на кінутую касу...

Пташнікаў хутка, слова ў слова, запісаў.

– Кінутую касу. Далей.

– ...Добра, што быў босы і не мог бегчы на ўсю сілу, а то застаўся б без ног, а тады ж толькі лёгка парэзаўся...

– Парэзаўся. Ёсць.

– ...Ён спрабаваў думаць пра штосьці іншае, а ўяўленне ўсё вяртала яго ў той дзень, дамалёўвала тое, чаго не адбылося: як з усяго разгону ён налятае на тонкае лязо, як падрэзваюцца сухажыллі, як палатно амаль перасякае тонкія косці, свішча, залівае ўсё вакол кроў...

– Кроў. Гатова. На! — падаў мне аркушык. — Бачыш — што размазвалася на тры старонкі, можна перадаць трыма нармальнымі сказамі. І далей так пішы: уяўляй, што перад табой самы блізкі чалавек, паміж вамі пачатая пляшка гарэлкі, і ты яму простымі словамі, ціха, няспешна, натуральна расказваеш. Можна нават прагаворваць услых. Сам здзівішся, колькі лішняга слоўнага шалупіння адляціць. — І адразу ж: — Ты скупа пішаш, надта шчыльна, няма дзе алоўку пагуляць. Калі многа тэксту, дык яно і рэдагуецца лягчэй: чык, чык. — Азірнуўся і шапнуў на вуха: — Пакуль я тут, карыстайся момантам. Перадам, што змагу, павучу...

Нават яму, які раскашаваў у беларускай мове, як рыба ў вадзе, часам рабілася ў ёй цесна. Неяк прыйшоў у кабінет, пастаяў і з прыкрасцю прамовіў: «Какой бедный белорусский язык!..» Усе, хто быў у кабінеце, каго раздражнялі яго «драстуйце, відзеў, тапор, скромненька, адуванчык, стул», са зларадствам пераглянуліся — даўно было вырашана, што ён ні многа ні мала не любіць мову. А між тым гэта было сказана

менавіта ад празмернай любові. Толькі пасрэдны пісьменнік можа быць цалкам задаволены лексіконам тлумачальнага слоўніка.

Не хапала рафінаванай літаратурнай мовы Мележу. Як ён сам прызнаваўся, «Людзі на балоце» ажылі, задыхалі толькі тады, калі ён пачаў пісаць дыялогі на палескай гаворцы.

Уладзімір Набокаў, гэты чарадзей-лінгвіст, параўноўваючы англійскую і родную рускую, адзываўся зусім не на карысць апошняй, казаў пра яе — «зялёная», называў «не зусім адукаваным, а часам і даволі безгустоўным юнаком».

Сам І. Пташнікаў быў абсалютным рэкардсменам у беларускай літаратуры па ўжыванні дыялектаў. Калі б іх усе сабраць, атрымаўся б ладны томік. З гонарам расказваў, як яму даводзілася іх адстойваць: «Дамашэвіч усё пагражаў — я вашы плешчаніцкія дыялектызмы і барысаўскія русізмы буду высякаць гэтым вашым “тапаром”!»

Цікава, што ўжываючы мноства ўласных, часта незразумелых нават з кантэксту слоў (што такое ляжэйка, гавыла, глытаўка, дарожніца, дзярнак, додніца? што такое дугаць, гломзаць, ажаргаць, ацілягвацца, выцыўкаць і інш, і інш.?), сам Іван Мікалаевіч быў нецярпімы да дыялектызмаў чужых.

У нас на Мазырскім Палессі ў сакавіку з бяроз «ставяць квас». Іван Мікалаевіч круціў і так, і гэтак, вымаўляў услых, спрабаваў на смак — і такі прымусіў зрабіць унізе старонкі зноску: «ставіць квас» — «спускаць сок».

Пра чалавека, які схуднеў, у нас казалі «высах у цёску». Цёска — вельмі тонкая лучынка. (Дарэчы, ёсць жа ў беларускай мове цясак.) Тое самае — унізе з’явілася зноска: «цёска» — «трэска». Я не змог яму даказаць, што гэта крыху розныя словы.

У мяне было: «хлопцы ціскаліся з дзяўчатамі».

– Дапускаю, — сказаў Іван Мікалаевіч, — што знойдзецца адна такая, што сама будзе цiскаць хлопца, і ўсё ж трэба паправіць — «цiскалі дзяўчат».

У мяне было: «мала дзе ён за жыццё папападаў».

– Не, тры па — занадта, — сказаў Іван Мікалаевіч і адно выкрасліў. — Далей, ты пішаш «басанож». А ў вас як казалі?

– Босы.

– Дык так і пішы. Не басанож, а босы, не аголены, а голы. Далей. У вас хіба казалі мезенец?

– Не, пальчык.

– Бачыш, табе і вучыцца не трэба, проста ўспамінай жывую мову, уяўляй, як бы гэта вымавіў вясковы чалавек.

«Каменьку» паправіў на «кавеньку». Тут я ўжо ўзбунтаваўся:

– Не было ў нас ніякіх кавенек, толькі каменькі. І камяня — тое, што ў слоўніках качарга ці чапяла. А куток каля печы, куды ставілася гэтыя вілачнікі, ёмачнікі, венікі, — па-нашаму не чалеснік, а камешнік.

Гэта не ўратавала мяне ад зноскі: «каменька» — «кавенька».

Самае пагардлівае яго выказванне пра літаратурны твор было — узровень «Чырвонай змены».

– Баюся разгортваць цяперашнюю кніжку, не магу прачытаць адзін абзац, нават адзін сказ, нават адно словазлучэнне. Гэта не беларуская мова і не беларуская літаратура; яна можа існаваць, але называць яе літаратурай, ды беларускай... ВыхОдныя, ЧЭцверы, пятнІцы, ніткаў, вусаў, курЫцаў, нОчыў...

Пішуць — штаніна, а па-беларуску гэта калоша, калашына, пішуць шырынка, а трэба — крэсла... Лайном заўсёды была маленькая посцілка, а ў што гэтае слова цяпер ператварылі? Зліваюць разам «напрыканцы», а чаму? Чым кепска — на канцы, пры канцы, а яшчэ лепш — у канцы? Што такое «падчас» злітна? Узро-

вень «Чырвонай змены». Пачытай любога нармальнага пісьменніка да 1991 года — у яго будзе толькі «ў час».

– Мова развіваецца, Іван Мікалаевіч.

– Бачу, як яна развіваецца...

Чамусьці вельмі не любіў слова «ёмка» ў значэнні «зручна».

– Ёмка тое, чым патэльню бяруць. І больш нічога. А дзяржак для ёмкі — ёмачнік.

(У «Лонве» я проста падкрадваўся да аднаго такога месца. Галоўны герой інтэлігент Завішняк прыходзіць раніцай да чужога чалавека, Акцызніка, той яшчэ ляжыць у ложку. «Завішняк адчуваў сябе... — тут канчаецца старонка, трэба перагортваць; перагортваю, аказалася — «несамавіта».).

Казаў, што ў нашых слоўніках многа неапраўдана падвойных слоў, напрыклад казлабароднік, дзядоўнік, а людзі кажуць — казлы, дзяды. Або пустазелле, а ў народзе яно — проста зелле.

– Прычым наша зелле — зусім не рускае «зелье». Нядаўна чуў верш: «Дзе ж мне нарваць таго зелля, каб загаіліся раны?» — пішуць, а не ведаюць, што нашым зеллем раны не гояць, яно ідзе кабанам у карыта.

Памаўчаў і падвёў рысу:

– Вось тое, чым мы, пісьменнікі, у рэдакцыях займаемся, гэта і ёсць развіццё мовы. У народзе яна даўно не развіваецца. Мы ж яе абсмоктваем, пераплаўляем, правяраем на зуб...

Калі ж удавалася яму дагадзіць — радаваўся больш, чым свайму ўласнаму. Знайшоў у мяне слова «чарствы», наставіў плюсікаў, усё дапытваўся: знарок так напісана ці памылкова? — можа, хацеў напісаць «чэрствы»? За адно гэтае слова ён гатовы быў даравацъ 150 старонак слабых. Увогуле, ён адзін з усёй Беларусі ацаніў і пахваліў назву — «Вёска»; яму нават у галаву не прыйшло шукаць тут нешта «бунінскае», ён проста

ўслухоўваўся ў гучанне, толькі гэта яго цікавіла, як прозвішча Варум.

Пасля «Вёскі» ён часцей пачаў заходзіць у наш кабінет, даўжэй тут затрымліваўся. Гаварылі пра пісьменнікаў. Ён хваліў Адамчыка, вельмі цёпла адзываўся пра Караткевіча, з якім жылі на адной лесвічнай пляцоўцы, прыносіў, нібыта каб паказаць, які ў «Валодзькі» почырк, кніжку, падпісаную: «Івану Пташніку, самаму лепшаму сябру, дарагому брату...». (Іван Мікалаевіч ніколі не расказваў і нідзе не пісаў, адкуль узялося «аў» на канцы яго прозвішча.).

Успамінаў Мележа. Калі ў «Полымі» друкаваліся «Людзі на балоце», у аддзеле прозы акрамя Пташнікава працавалі Янка Сіпакоў і Барыс Сачанка. Рэдагаванне Мележа яны называлі «гладзіць кракадзіла». Ён вельмі хваравіта ставіўся да любой заўвагі, нават да коскі. Здаецца, усё зразумела, а ён — «я падумаю, добра, забяру рукапіс дамоў і падумаю». Першае, што казаў, заходзячы ў кабінет: «Ёсць заўвагі? — «Няма, Іван Паўлавіч». — «А гэта што?» — упіваўся вачыма ў рэдкую, адну на пяць старонак, птушачку на палях.

Барыс Сачанка, якому як земляку часцей за іншых выпадала ўлагоджваць «кракадзіла», адказваў: «Вы напісалі «пожня», але пожня — калі зжата, а калі скошана, у нас казалі — «пакоша».

Мележ прысеў, абхапіў галаву рукамі і застыў, нібы здарылася з ім вялікае гора. Потым ціха, пераселым голасам сказаў:

– І ў нас пакоша...

Ён баяўся, што можа забыць жывую мову, перажываў, як гэта ён, па 20 разоў перапісваючы, мог прапусціць хоць косачку. Але ніколі, нават калі была яго праўда, не спрачаўся, забіраў рукапіс дамоў і часцей за ўсё рабіў так, як хацелася рэдактару.

– Пра што вы яшчэ гаварылі? — дапытваўся я.

– Ды пра тое самае, што і мы цяпер, — пра мову.

Мележ казаў, што вось пачалі пісаць лужок замест поплава, чашка замест кубка. «Усё гэта, можа, драбяза, памылкі, але ж яны фіксуюцца, уводзяцца ў слоўнікі як норма». Наракаў, што сталася з нашымі беларускімі імёнамі, як яны калечацца, а гэта ж таксама наш скарб. Калі людзей усё жыццё звалі Алена і Прахор, то ў чыю галаву прыйшло, што трэба зваць іх Алёна і Прохар? Пайшлі раптам Ялізаветы, Якацярыны, Анатоліі, Юліі, з падвоенымі зычнымі Таццяна, Наталля, Улляна, Анастасія...

Я ўспомніў, што ў самога Пташнікава гераіню завуць Настасея.

– Цяпер бы напісалі Настасья, з разанскай інтанацыяй.

– Але, — згадзіўся Пташнікаў. І раптам ціха заспяваў: — Эх, Настасья, эх, Настасья, отворяй-ка ворота!..

У яго быў прыемны голас і бездакорны музыкальны слых — такі ж, як і літаратурны.

Наколькі адкрыты ён быў са «сваімі», настолькі ж зацінаўся, хаваўся ў панцыр з «чужымі». Анатоль Сідарэвіч успамінае: «Іван Мікалаевіч быў вельмі цікавы чалавек, але нешта было ў ім таямнічае, ён не адкрываўся цалкам, нешта недагаворваў, прыхоўваў. Пазбягаў публічнасці. Яго нельга было “раскруціць” на інтэрв’ю».

Сам ён нават як бы хваліўся гэтым:

– За ўсё жыццё, — казаў ён, — не даў ніводнага інтэрв’ю і ні разу не выступіў перад чытачамі!

Яго звышсціпласць, ці як гэта назваць, даходзіла да таго, што ён не з’явіўся на ўласны 70-гадовы юбілей. Вечарыну ў Доме літаратара вёў паэт Мікола Мятліцкі, на сцэне вісеў партрэт юбіляра, на століку ў вазе стаялі кветкі, а дзе быў у гэты час юбіляр і што думаў — невядома.

Аднойчы сказаў з лёгкім дакорам:

– Чаму вы так нясмела пішаце, маладыя? Вам жа ўсё можна, вы ж не мы, каго запалохалі ад пачатку і да канца жыцця.

Калі на маё апавяданне «Бляха», якое яму падабалася, выйшла ў «ЛіМе» нейкая несур'ёзная нават па тых часах, тым больш па цяперашніх, крытыка, ён убег у кабінет з газетаю ў руцэ, узрушаны, устрывожаны:

– Не папускайце! Бо прывыкнуць! Пішыце адказ! Абараняйцеся!

Я нагадаў яму чэхаўскае: нельга пісаць абвяржэнні на крытыку; нават калі пачнуць сцвярджаць, што ты робіш фальшывыя грошы, і тады нельга абвяргаць; адзіны выпадак, калі можна пісаць абвяржэнне, — калі трэба заступіцца за каго-небудзь.

– Ага. А Чэхаву даводзілася абвяргаць не крытыку, а пахвальбу?

– Як гэта?

– Мой «Тартак» расхвальвалі на радыё «Свабода», Station Станіслаў Станкевіч, а я вымушаны быў гэта абвяргаць. Пісаў у «Голас Радзімы» ліст...

І ўсё ж думаю, што не толькі запалохалі, не адна асцярожнасць была прычынай яго дзіўнаватага, дзікаватага адзіноцтва. Надта самадастатковай была яго проза. Цану сабе ён ведаў. Магчыма, ён проста не хацеў пускаць у свой свет чужых. Бо ўсё ж сказана ў творы. І раскладзена па палічках у рэцэнзіях. Калі чалавек не чытаў, ці прачытаў і не зразумеў, дык якія выступленні, якія інтэрв'ю могуць яго змяніць? Гэта проста не мой, не Пташнікава, чытач. Хай чытае іншых.

Да таго ж і нашы чытачы не заўсёды Алёшы Карамазавы. Калі б не хвароба, не ўзрост, калі ўявіць Івана Мікалаевіча за камп'ютарам — ён мог бы прачытаць пра сябе і такое: «Пасля аднаго сказа Пташнікава больш я ні яго, ні вясковую прозу чытаць не буду, я яе ненавіджу!» або: «Ці мае Пташнікаў сёння чытачоў і прыхільнікаў, ды і ўвогуле колькі чалавек са

ста апытаных каля ўвахода ў БДУ прызнаюцца, што чулі пра такога?»

Гэта пісалася пры яго жыцці.

У душы ён, канечне, хацеў славы — але такой, якая прыйшла б без усялякіх намаганняў з яго боку, сама сабой ці з дапамогаю ўладаў. Адзін з самых любімых пісьменнікаў Пятра Машэрава, калі не самы любімы, ён да канца жыцця спадзяваўся на цуд: напрыклад, атрымаць званне «народнага», або — яшчэ вышэй — наіўна верыў у нейкую «літаратурную справядлівасць», скажам, у шведскую інстанцыю, якая нібыта тым і займаецца, што вышуквае ў глухіх кутках геніяльных, але сціплых творцаў і выцягвае іх на свет Божы.

Пасля 2002 года яго кумірам стаў нікому раней невядомы Імрэ Картэс.

«Паглядзіце на гэтага венгерца, — узбуджана казаў мне па тэлефоне. — Вайна, разруха, а ён піша сабе ў падвале (так Івану Мікалаевічу ўяўлялася). І вось, у аднечассе, сусветнае прызнанне! І так не прападзе ніякі талент, ні пры якіх умовах!»

Па голасе адчувалася, што ён крышку і сябе падстаўляе на месца Картэса.

З гадамі ён пісаў усё лепш. «Львы», «Пагоня», «Арчыбал», «Француженкі»... І самая апошняя, у 70 гадоў, шэдэўр аўтабіяграфічнай прозы — «Ненапісаная аповесць». Але такіх рэчаў ужо не было каму чытаць, а калі і былі такія, іх словы ўжо нічога не значылі. Пік беларускага літаратурнага адраджэння мінуў, слова «талент» выпала з ужытку, літаратура пачала брацца ў двукоссе і замяняцца «літпраектам», запанавала, як эпідэмія, татальная малапісьменнасць і проста непісьменнасць, нягледзячы на штаты карэктараў і рэдактараў. Плюс вакол яго імені не было легенды. Калі не лічыць містыфікацый з інтэрв'ю і выступленнямі, усё ў яго ішло неяк занадта роўна, гладка, правільна. Ён не быў «прарокам», «апосталам нацыі» (а ў нас ад пісьменніка патрабуюць чамусьці толькі гэтага); тое,

што ён самародак, непераўзыдзены мастак, ужо мала каго цікавіла.

Ён сам гэта адчуваў. Прыкладна з 2000 года добраахвотная самаізаляцыя пачала яму крыху надакучваць. Ён нават выступіў на філфаку БДУ. Пра тое выступленне ён, радасны, амаль шчаслівы, расказваў: «Чалавек дзвесце! поўная зала! ды ўсе такія маладыя, прыгожыя ды разумныя, ды ўсе па-беларуску, ды такія цікавыя пытанні... Адзін вельмі сімпатычны хлопец пытае: “За каго вы галасавалі?” — “За Лукашэнку, — адказваю. — І сам, і ўсю сям’ю пераканаў”. Мёртвае маўчанне двухсот чалавек. Потым у цішыні дзявочы голас: “А чаму?” Я вінавата развёў рукі: “Вось цяпер я і думаю, чаму...” У сэнсе, што я, стары дурань, нарабіў. Тут раптам — апладысменты, авацыя!..»

Усё часцей ад яго можна было пачуць, што ён не заўважыў, як прайшло жыццё, што з-за вечнай вясковай асцярожнасці, сціпласці ён так там мала ад яго ўзяў.

– Эх, каб можна было вярнуць... Хоць бы даў сабе волю, хоць бы піў, курыў, нават распуснічаў бы... А так — ну проста няма чаго ўспомніць!

– Усё жыццё адчуванне, што я падманваю людзей, калі яны называюць мяне на вы і па-бацьку, бо які я Іван Мікалаевіч? Я быў і ёсць шасцігадовы Іванко...

Калі інтэрнэт прынёс вестку пра яго смерць, першае, што ўспомнілася, — мост праз Свіслач, на якім ён абдымаў мяне і ўпрошваў не ісці на мітынг («вось мне лёс... некалі Караткевіча прасіў: Валодзечка, не хадзі, а цяпер цябе: Андрэечка, не ідзі, ды яшчэ спіртным ад цябе пахне...»); успомнілася, як некалі расказваў, што ў блакаду піў ваду, выціснутую з балотнага моху, і то была «самая смачная ў свеце вада, халодная і кісленькая, з чорнымі макаўкамі»; успомнілася, як тэлефанаваў мне ў 2006, здаецца, годзе, віншаваў з фільмам па «Талерах» — ужо тады вельмі цяжка было

яму гаварыць, палову слоў не вымаўляў. А потым памяць перанесла яшчэ далей, у 1990 год, у самую першую нашу сустрэчу. Чужы кабінет, поўны незнаёмых людзей. Я глядзеў на яго і думаў: які ж ён строгі, суровы з выгляду, які гэта, відаць, бязлітасны, жорсткі рэдактар... Чым яго ўзяць? Як да яго падступіцца? Веснавы ветрык надзімаў фіранкі; каля расчыненага акна на скразнячку сядзеў нейкі правінцыйны аўтар у вышытай сарочцы і гучна расказваў, як летась, праз тры гады пасля Чарнобыля, у сваёй вёсцы пад Ельскам стаў сведкам крыху вусцішнай з'явы: вялікага рушэння гадаў і земнаводных, яшчарак, чарапах, вожыкаў, мышэй, жаб; усё паўзло, скакала, шчамілася з рэчкі, з поля, з лесу ў двары да людзей, да чыстай калодзежнай вады. Асабліва многа было гадзюк, ды ўсе нейкія featureнакаляровыя: шэрыя, чорныя, карычневыя, з узорамі на спінах і без узораў. Страшна было босаму і без дубца выйсці на двор. Куры, пабачыўшы гадзюку, збіваліся ў кучу, сакаталі, выцягвалі шыі, а певень адганяў яе дзюбаю. «І вось, — расказваў аўтар, — на адну я, босы, каля самага ганка, умудрыўся наступіць!» Яна грэлася на сонцы ці спала і не ўкусіла толькі таму, што была наетая, — пасярэдзіне было патаўшчэнне, як курынае яйка. Не так ад страху, колькі ад злосці ён знайшоў дубца і засек яе на месцы.

Пташнікава аж перасмыкнула. Ён неяк па-дзіцячы выставіў перад сабой далонь і ўсклікнуў:

– Нашто? Не трэба!..

І ад усёй яго нібыта суровасці не засталося і следу. Першы раз у жыцці я бачыў чалавека, які шкадуе нават гадзюку.

*2017*

## *ЗМЕСТ*

## Сцісла пра аўтара

Федарэнка Андрэй нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі палітэхнікум, Мінскі інстытут культуры, служыў у Савецкай Арміі, працаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць», на кінастудыі «Беларусьфільм», цяпер – у часопісе «Дзеяслоў». Аўтар дзесяці кніг прозы, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа. за кнігу «Смута» (1995).

## *У серыі «Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"» выйшлі кнігі:*

*1. Анатоль Івашчанка. «Вершпіск».*
*2. Васіль Быкаў. «Бліндаж».*
*3. Усевалад Сцебурака. «Крушня».*
*4. Сяргей Дубавец. «Вершы».*
*5. Анатоль Кудравец. «За дальнім прычалам».*
*6. Леанід Дранько-Майсюк. «Цацачная крама».*
*7. Сяргей Прылуцкі. «Дзевяностыя forever».*
*8. Таццяна Сапач. «Няхай не пакіне нас Восень».*
*9. Галіна Дубянецкая. «Анадыямэна».*
*10. Віктар Шалкевіч. «Блюз Вясна».*
*11. Вершы-прысьвячэньні Анатолю Сысу «Ягамосьць».*
*12. Ніл Гілевіч. «Замова ад страху».*
*13. Дзмітры Плакс. «Трыццаць тэкстаў».*
*14. Аляксандар Л. «Зкімбы-зымбы». Кніга люстрацыяў.*
*15. Наталля Русецкая. «Каштаны ў кішэнях».*
*16. Людміла Рублеўская. «З'яўленне Інфанты».*
*17. Леанід Галубовіч. «Поўня». Выбранае.*
*18. Валянціна Аксак. «Дзікая сліва».*
*19. Міхась Скобла. «Камізэлька для месяца».*
*20. Іна Снарская. «Вогнепаклонніца».*
*21. Уладзімір Някляеў. «На ўсякім свеце».*
*22. Віктар Казько. «Казань пра ката, каторы смяяўся».*
*23. Уладзімер Арлоў. «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань».*
*24. Игорь Шкляревский. «Ожерелье сушёных грибов».*

**Федарэнка, А.**
Ф32 Сузіральнік : аповесці, апавяданні, эсэ / Андрэй Федарэнка. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 144 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 25).
ISBN 978-985-7207-42-8.

Новую кнігу Андрэя Федарэнкі складаюць творы, напісаныя ў апошнія гады.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 25

**Андрэй Федарэнка**

**Сузіральнік**
*Аповесці, апавяданні, эсэ*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Барыс Пятровіч, Алена Спрытніч*
Мастак *Генадзь Мацур*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 28.11.2018. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 7,56.
Ул.-выд. арк. 5,27. Наклад 300 ас. Зак. 490.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.